
Клопат пра пушчу → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Янка Быліна → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 12 (3123) Год LXI | Беласток, 20 сакавіка 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Амаль тры з паловай гадзіны ў перапоўненай зале Падляшскай оперы і філармоніі працягваўся гала-канцэрт сёлетняга XXIII Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня», арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам, святкуючым сёлета сваё 60-годдзе. Як госці з Беларусі выступілі фальклорны ансамбль «Харошкі» і бойз-бенд з пяці музыкаў, Арт-група «Беларусы». Былі дэбютанты фестывалю, але ў большасці выканаўцы дасведчаныя ў конкурсных змаганнях. На сцэне з'явілася шмат маладых выканаўцаў.**



❖Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Гала-канцэрт маладым духам

Гала-канцэрт 11 сакавіка вялі як год назад Паўліна Паўлючук-Коська, якая калісьці пісала ў нiўскую «Зорку» і дэбютуючы ў гэтай ролі на фестывалі журналіст Радыё Рацыя і вядучы праграму «Беларускі тыдзень» на Беластоцкім тэлебачанні Радаслаў Дамброўскі. Звычайна шэраг узнагарод на фестывалі пасля раённых і цэнтральных адбораў прысуджаецца ў наступных катэгорыях: аўтэнтычная народная песня, апрацаваная ды сучасная. Ацаніці салістаў, дуэты, трыо, квартэты, вакальныя, вакальныя і інструментальныя, эстрадныя ансамблі і хары. Пераможцы прайшлі раённыя адборы ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Дуброве-Беластоцкай, Сямятычах і Беластоку. Не першы раз у якасці лаўрэата выступіў беластоцкі хор «Крыніца» (другое месца ў намінацыі «сучасная песня»). Кіраўнік хору **Гражына Валкавыцкая-Тамашук**:

— Змены ў фестывалі можна ўбачыць, хаця б з-за росту ліку маладых людзей, якія тут выступаюць. Яго ранг падымае той факт, што на працягу некаторага часу адбываецца ён у прэстыжным будынку Падляшскай оперы і філармоніі. Мы падрыхтавалі сёлета песню «Родная мова». Гэта выдатная песня з цудоўнымі словамі. Удзел у фестывалі з'яўляецца матывацыяй для далейшай працы нашых калектываў і хароў, нягледзячы на месца, якое займаем.

Не першы раз на фестывалі выступіла Марыя Врублеўская з Гарадка, узбуджаючы і на гэты раз хвалюючым выступленнем захапленне гледачоў, а раней журы, якое прысудзіла ёй першае месца ў катэгорыі «сучасная песня — салісты» — разам з Магдаленай Маліш з Белліцэя ў Бельску-Падляшскім, Мартай Маліноўскай з Бельска-Падляшскага і Марленай Бяглюк з Гайнаўскага дома культуры. **Марыя Врублеўская**:

— Я падрыхтавала ў гэтым годзе свой верш «Зашумела вярба над ракою» ў сваёй музычнай апрацоўцы без якой-небудзь музычнай падтрымкі. Я спяваю свае вершы ад пяці гадоў, хоць пішу іх значна даўжэй. А гэты якраз падышоў мне пад душу, дык і заспявала. Нот не запісваю. Прыходзіць мне ў галаву нейкая мелодыя, я запамятаю яе і так на словы верша яе спяваю. Я такі самавук.

У сваю чаргу моладзь з Аульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім — калектыў «Спадчына» з песняй «Беларускае Палессе» заняла першае месца ў намінацыі «сучасная песня — вакальныя ансамблі» (разам з дзявочай групай хору «Каласкі» з Беластока, квінтэтам «Доўгі вечар» з Гайнаўкі і «Аморфасам» з Сямятыч). Апякунка калектыву настаўніца **Іаанна Хількевіч**:

— Для мяне асабіста фестываль з'яўляецца вялікім культурным святам. Мабыць таму, што шмат гадоў назад я на ім спявала. Лічу, што маладым людзям трэба перадаваць беларускую традыцыю таксама праз удзел у фестывалі беларускай песні. У Беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім кожны год да яго рыхтуемся. У нас ад гэтага вялікая радасць, а першае месца, якое мы ўзялі, яно вельмі важнае не толькі для моладзі, але і для дырэктара нашай школы і яе настаўнікаў.

Многія з пераможцаў сёлетняга выпуску фестывалю спяваюць у асноўным у цэрквах, так як некаторыя члены «Загадкі» з Супрасля — хору, які налічвае амаль дваццаць спевакоў. Для фестывальнай прэзентацыі харыстаў рыхтуюць **матушка Міраслава і дыякан Дзмітрый Ціханюкі**. Айцец Дзмітрый прызнаўся «Ніве»:

— Фестываль, як і любая магчымасць выказаць свой талент і пачуцці — патрэбны. Людзі мала сустракаюцца адны з аднымі, мала ў іх магчымасцей паспяваць разам. Калісь усё было больш стыхійным, чым цяпер, калі трэба нейкім чынам заахвочваць да спеву. Мы прымаем удзел у фестывалі з песняй «Толькі з табою» для ўзбагачэння майстэрства, асабліва ў той частцы нашай групы, якая спявае ў прыманастырскім хары.

«Загадка» ўзяла ў катэгорыі «сучасная песня — хары» першае месца разам з беластоцкім калектывам «Каласкі».

Упершыню на сцэне гала-канцэрта фестывалю з'явіўся квінтэт «Доўгі вечар» (два хлопцы і тры дзяўчыны) з Гайнаўкі пад кіраўніцтвам маладога Каміля Васілюка. Сяброўка групы **Юстына Харкевіч** не хавала гонару ад першага месца ў іх катэгорыі — той самай, што і бельская «Спадчына»:

— Мы стварылі наш ансамбль для патрэб кінафестывалю расійскіх фільмаў «Спутнік», на працягу якога ў мінулым годзе афіцыйна ўпершыню заспявалі. Адна з нашых дзяўчат працуе ў памежнай ахове, другая ў гімназіі. Я заканчваю вывучаць фізіятэрапію. Адзін з хлопцаў ліцэіст, другі вучыцца ў музычнай школе. У рэпертуары маем беларускія народныя песні, але на гала-канцэрце спяваем «Колькі ў небе зор». Выконваем тое, што спявалі нашы бабулі, што ведаем з дамоў і тое, што нам блізкае, што ведаем, напрыклад, са школы, значыць, з белліцэя. Раней мы сустракаліся і спявалі ў сваіх дамах, а спяваем у хоры Свята-Троіцкага сабора, дзе мы пазнаёміліся.

Прысутны на гала-канцэрце ўпраўляючы Беластоцка-Гданьскай епархіяй **архіепіскап Іакаў** у размове з намі сказаў, звяртаючыся да ідэі фестывалю:

— Фестываль вельмі важны, калі гаворка ідзе аб захаванні нацыянальнай беларускай культуры. Важны таксама і той факт, што вялікая частка спяваючых тут таксама спявае ў царкоўных харах.

У сваю чаргу, пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы **Аляксандр Авяр'янаў** сказаў нам:

— Гэтае свята з'яўляецца нашым блізкім і родным, сведчыць аб павазе для беларускай мовы. Мы ганарымся тым, што ёсць у Польшчы беларусы, якія спрыяюць паляпшэнню адносін паміж нашымі дзвюма краінамі.

Падчас гала-канцэрта пасол прачытаў адзін са сваіх апошніх вершаў, у якім ён, сярод іншага, выказаў жаданне, каб «добра жылося беларусам нягледзячы на глабальныя крызісы» і «паважалі незалежнасць Беларусі, да якой яна так доўга ішла». Раней адзначыў:

— Рэспубліка Беларусь вельмі ганарыцца дасягненнямі беларусаў у Польшчы, іх любоўю да беларускай песні. Рэспубліка Беларусь заўсёды падтрымлівала і заўсёды будзе падтрымліваць суайчыннікаў дзе б яны не былі, бо вы, суайчыннікі, з'яўляецеся часткай агульнай нацыі беларусаў і трэба гэтым ганарыцца.

Паміж выступленнямі лаўрэатаў некалькі раз на сцэне з танцамі паяўляліся танцоры Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» з Мінска. Назва групы паходзіць ад назвы адной беларускай вёскі. На беластоцкім фестывалі яны не першы раз. **Валянціна Гехт**, кіраўнік трупы, сказала ў размове з «Ніваю»:

— Наш ансамбль быў сфарміраваны ў студзені 1974 г. На гэты раз мы прыехалі без аркестра і спевакоў, як раней, а толькі з пятнаццаццю парамі танцораў. Прадстаўляем крыху іншы рэпертуар, чым летась, да прыкладу, мы пашырылі яго на танец з Гомельшчыны. Наша традыцыйная «Лявоніха» таксама распрацавана на свой лад. Танец «Субота» з'яўляецца ўнікальным, так як танцоры танцуюць і іграюць на гармоніках. Нашы касцюмы і харэаграфія цалкам адрозніваюцца ад іншых падобных груп у Беларусі. Вядома, нашы танцы крыху стылізаваныя, таму што ў рэшце рэшт мы не можам танцаваць дакладна так як нашы бабулі. У кожным нашым танцы ёсць нейкі сэнс, тэма.

**Павел Жураўлёў**, дырэктар ансамбля, падкрэсліў:

— Наша каманда з'яўляецца адзінай у Беларусі, якая выконвае выключна песні і танцы традыцыйна беларускія, з шаснаццатага стагоддзя да нашых дзён. Наш мастацкі кіраўнік Валянціна Гаявая, складваючы танцы, кіруецца ўласнай адчувальнасцю і бачаннем свету, але і выдатным веданнем гісторыі Беларусі ды гісторыі мастацтва.

Сярод гледачоў пераважная большасць бывала на фестывалі шмат разоў, як спадар **Міхал Грыгарук**, цяпер жыхар Беластока, ураджэнец Трасцянкі, які на працягу 27 гадоў працаваў у Рыбалах на гаспадарцы. З сябрамі, у тым ліку з Гацькоў, прыйшоў ужо гадзіну да канцэрта:

— Я прыходжу на гала-канцэрт кожны год. Сёлета таксама быў на двух адборачных слуханнях. Я тут таму, што вельмі люблю беларускую песню і файна тут яе спяваюць, і сам я беларус.

**Васіль Сегень**, віцэ-старшыня БГКТ, у кулуарах фестывалю сказаў «Ніве»:

— Калі прыглядзецца фестывалю на працягу апошніх гадоў, відаць змены: выразна ён маладзее, паяўляецца шмат вельмі таленавітых маладых людзей. Яны вельмі добра падрыхтаваныя, часта на высокім прафесійным узроўні. Гэта новы дух фестывалю. Старэйшае пакаленне таксама працягвае павышаць свой узровень майстэрства. Гледзячы на маладых, раўняецца ўвысь. Фестываль па-ранейшаму карыстаецца вялікай цікавасцю аўдыторыі, пра што сведчыць зала запоўненая не толькі падчас гала-канцэрта, але і ў час адборачных слуханняў. Фестываль патрэбны не толькі для гледачоў, але і для самых выканаўцаў, якія часта рыхтуюцца спецыяльна для фестывалю. Усё гэта азначае, што ён прэстыжны.


9 770546 196000



# Мэта, задача і вынік

Пра суд над украінскай лётчыцай Надзеяй Саўчанкай апошнім часам напісана багата матэрыялаў — і інфармацыйных, і аналітычных, і пратэстных, і пра яе мужныя паводзіны, і пра сутнасць расійскай судовай сістэмы. З большага на ўсё пастаўленыя пытанні — і пра Надзею, і пра суд — знаходзяцца больш-менш лагічныя адказы. Ну што нам, людзям, якія нарадзіліся ў Савецкім Саюзе, можна распавесці новага пра „праваую" спадчыну, якая дасталася нашым народам ад той сістэмы, якая загубіла безліч людзей толькі за іх сацыяльнае паходжанне або класавую прыналежнасць?

Усе мы памятаем такія тэрміны як „сацыялістычная законнасць", якімі нас шпігавалі і ў школе, і з экранаў тэлевізараў, і з газетных старонак. І шпігавалі так актыўна, што пасля такога прамывання мазгоў нават студэнтам юрыдычных факультэтаў не былі зразумелымі абавязковыя для вывучэння нормы рымскага права. І гэтыя нормы так і не змаглі перамяніць іх сацыялістычнага менталітэту. А „сацыялістычная законнасць" ад нармальнай законнасці проста адрознівалася ўсяго толькі наяўнасцю ў ёй ідэалогіі, манаполію на якую трымала ўлада. І вось гэтая ідэалогія і была першаснай, а не сама законнасць.

Таму так лёгка суддзі караюць нямых удзельнікаў масавых акцый за гучнае выкрыкванне імі антыдзяржаўных лозунгаў, караюць бязрукага за пляскание ў далоні, караюць беларускамоўнага актывіста за рускамоўную лаянку. Усё проста. Хто не падпадае пад ідэалогію, той пазбаўляецца ўсялякіх правоў. Ён вораг ужо па самым факце свайго існавання. І да яго прымяняецца менавіта „сацыялістычная законнасць". І ключавое слова ў гэтай фразе гэта слова „сацыялістычная".

Зараз то гэтага слова па зразумелых прычынах не агучваюць, але сутнасць такіх судоў ад гэтага не мяняецца.

Зразумела, што такія адміністратыўныя пакаранні як за пляскание ў далоні ўсяго толькі дробязныя прысуды ў параўнанні з іншымі, значна больш жорсткімі, якіх ужо таксама багата налічылася. Але ж усё пачыналася з малога, пакуль псіхалагічна не прывыклі да гэтага абсурду і выканаўцы, і грамадства. І калі цэлая куча ўдзельнікаў працэсу працягвае настойваць на тым, што бязрукі пляскаў у далоні, і сцвярджаюць гэта і міліцыянты, што складалі пратакол, і сведкі, якія выступаюць у судзе ў прысутнасці пракурора, і пагаджаецца з імі і сам суддзя, які бачыць перад сабой таго самага пляскуна без рукі, то можна смела сцвярджаць, што гэта толькі кветачкі. Усіх іх рыхтуюць да значна больш сур'ёзных працэсаў, да такіх, як над Надзеяй Саўчанкай.

Вельмі шмат людзей задаюць зараз пытанне: навошта расійскай уладзе быў патрэбны гэты абсурд? Што яна ад яго выйграла? Здавалася б наадварот, пераспарылася з усімі канчаткова! Але ж не. Яна дзеіць згодна са сваім бачаннем. І зараз, як і неаднойчы ўжо было, яна проста павязала ўсіх удзельнікаў гэтага працэсу і вялікую частку расійскага грамадства сваім выракам. Гэта і была галоўная мэта, і задача, і вынік. Як пры Сталіне, калі праводзіліся масавыя сходы з патрабаваннямі смерці ворагам народа. Гэта быў працэс не толькі над украінскай лётчыцай, але і над расійскім грамадствам, якое ў выніку павінна было канчаткова скарыцца ўсялякаму рашэнню сваёй улады.

Скарыліся не ўсе. Мноства журналістаў, аналітыкаў, акцёраў, навукоўцаў, палітыкаў і іншых вядомых расіян выказалі свае негатыўныя адносіны да таго, што адбывалася на судзе над украінкай. І ў адрозненні ад улады добра аргументавалі свае довады. На жаль, іх моцы пакуль што не хапіла, каб паўплываць на вынік, хоць свой гонар, і не толькі свой, яны паспрабавалі адстаяць.

Для іншых жа, хто не адважыўся выказацца, ужо нічога не зменіцца. Саму Надзею Саўчанку могуць і памяняць на каго, як гэта прынята ў сусветнай дыпламатыі. Могуць згандляваць за адмену санкцый. Могуць нават і проста адпусціць, хоць гэта мала верагодна. Хутчэй наадварот. Але нават каб і апраўдалі, то гэта ўжо нічога не зменіць для тых, хто не паспеў выказаць сваёй пазіцыі. І вось гэта і ёсць самае страшнае, бо менавіта такое маўчанне і натхняе ўладу на новыя чарговыя авантуры. Хутка мы пра іх даведаемся.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Мудрасць пры канчыне

Як гэта пасля святкавання — толькі пахмелле і пачуццё стомленасці! Некаторы час таму мы пампезна святкавалі Дзень роднай мовы. Толькі адзін дзень — у Польшчы. У Беларусі свята нацыянальнай мовы спраўлялі тыдзень. У абедзвюх краінах гэта была... СМІ-падзея.Так званыя штотыднёвікі грамадскай думкі апублікавалі на сваіх старонках артыкулы ўздымаючыя прыгажосць роднай мовы. Некаторыя з непакоем пісалі пра варварызацыю мовы, звяртаючы ўвагу пра значнае павелічэнне мацерных слоў на «б» ці на «х», прыпадаючых на адзін статыстычны сказ з найпрасцей граматыкай, на якой найчасцей кантактуюць адзін з адным суайчыннікі. Вядома, не магло абысціся без урачыстых вечарын, навуковых семінараў і лекцый. У іх прынялі ўдзел агулам, мабыць, некалькі соцень чалавек, прытым у абедзвюх краінах. Ці астатняя частка польскай або беларускай супольнасці мае наплявацельскія адносіны да іх уласнай мовы?

Няма чаго крывіць душой, сучасная мова палякаў і беларусаў глухая на тонкую фразу Міцкевіча альбо Купалы. Мала хто таксама ўмее прачытаць і разумець складаную фразу, у якой яны запісвалі свае пачуцці і думкі. Міцкевічава мова, каб не сягаць яшчэ глыбей, для сучаснай пальшчызны амаль чужая, так як і Купалава мова для беларусаў. Толькі што ў Беларусі амаль усе думаюць па-беларуску, але гавораць па-руску, што мяне нават не здзіўляе, калі ўлічыць, што слоўнік рускай мовы фіксуе, калі не памыляюся, некалькі дзясяткаў слоў для, э-э... непрыстойнай жанчыны, а беларуская, абыходзячы расійскія напластаванні, толькі некалькі. Апраца таго трэба мець на ўвазе, што так званая гутарковая мова выкарыстоўвае не больш за 100-150 слоў, з якіх каля чвэрці з'яўляецца інвектыўнымі фразамі, адпавядаючымі эмацыйнаму настрою абодвух народаў. Але бываюць і такія пазыкі, якія ў польскім антуражы дасягнулі выключную прыгажосць над карэннай семантыкай. Напрыклад, англійскае слова «simpleton», грэбліва абазначаючае прасцяка, неабчасанага чалавека, прыняло ў дзевятнаццатым стагоддзі ў польскай мове мілую форму «сымплячка» — прастачка, неабчасанчыка. Сымплячком, ва ўсякім разе, называю свайго сабачку ў момант кароткахвіліннага гневу, калі любіць ён пырснуць на колы аўтамабіляў, прыязджаючых наведаць мяне сяброў. Я прызнаю, аднак, што такога роду англійшчыну прымаю і нават ухваляю. Я прапускаю тут бяздумна спланізаваную інтэрнэтную англійшчыну, якая ўліваецца паводкай у вучнёўскія, студэнцкія і карпаратыўныя размовы.

Кажуць, мова з'яўляецца люстэркам часу. Сёння ўсталёўвае яе стандарт 180-знакавай эсэмэскі, якая не мае ніякай павагі да вялікіх загалоўных літар, пачынаючых фразу, ані для пунктуацыі, або адпаведных ёй і зведзеных да мінімуму выразаў на твітары. Звычайна гэты мінімум зводзіцца да інвектыў. На жаль. Твітар асабліва любяць польскія палітыкі. Нездарма ж, большасць польскіх грамадзян думае, што карыстаецца чыста польскай мовай, але размаўляе на спрошчанай мове палітычных прытонаў. Прытонаў, а не эліт! Прыклад ідзе зверху. Раней лічылася, што палітычныя эліты, калі яны былі на самой справе элітамі, вызначалі стандарты моўнай і — праз мову — маральнай карэктнасці; сёння, калі яны зышлі ў партыйныя прытоны, дзе дыскусія вядзецца вульгарнымі словамі, галоўным чынам пра тое, як зашкодзіць ідэалагічным праціўнікам — вызначаюць стандартызаваную пошласць. Ва ўсякім выпадку, грубасць мовы польскіх палітыкаў з'яўляецца часткай глабальнай тэндэнцыі. У апошні час у ЗША падчас публічных дэбатаў трох рэспубліканскіх кандыдатаў у прэзідэнты кожнага з іх больш займала тое, што ў каго ёсць у распорку, чым сацыяльныя і міжнародныя праблемы.

Аднаго дня ці нават тыдня ўвагі, адведзенага роднай мове, недастаткова, каб вярнуць ёй годнасць папсаваную ігнараваннем або няведаннем. Усё роўна ці гаворым пра польскую, беларускую ці любую іншую мову, нельга забываць, што ў кожнай з іх утрымліваецца многапакаленная мудрасць. Было б па-дурному змарнаваць яе. Калі заціраецца свядомасць роднай мовы, калі занядбоўваецца клопат пра яе, незваротна растрачваецца калектыўная мудрасць продкаў. Яна перадаецца наступным пакаленням, але часта толькі на роднай мове. Без уласнай мовы кожны народ дурнее і, як яго родная мова, асуджаны на знікненне.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Здымак дэпутата

Увечары 27 лютага на адной з сацыяльных сетак старшыня Усяпольскай моладзі, падляшскі дэпутат клуба «Кукіз-15» Адам Андрушкевіч (на выбарах падтрымала яго больш чым 15 600 чалавек), апублікаваў фатаграфію, на якой ён з усмешкай, у скураной куртцы і бачнай з-пад яе кашулькай з арлом у кароне стаіць перад драўляным домам скансэна Сяло Буды. Перад домам Сяргея Нічыпарука, якога частку сям'і закатаваў атрад капітана Рамуальда Райса «Бурага» ў 1946 г. Дэпутат змясціў фатаграфію на табліцы на сваім партале: «Адам Андрушкевіч — публіцыстыка і каментарыі», і паставіў подпіс: «Кліматы Падляшша, на зваротным шляху з першага Гайнаўскага маршу памяці Салдат праклятых», дадаўшы ў канцы смайлік «падміргнуць» і клічнік. Публікацыю да першых дзён сакавіка перапаставалі пяцьдзясят разоў, а амаль чатырыста паставілі знак «падабаецца». Фота выклікала шмат каментарыяў, у тым ліку шмат хто ў першую чаргу выказваў абурэнне, м.інш.: «У мяне няма слоў, і толькі думаю, якім трэба быць выродкам, каб зрабіць нешта падобнае», «Трэба называць рэчы сваімі імёнамі — нацыяналістычная чэрнь сцвердзіла, што ўсё дазволена», «Гэта ўжо выходзіць за межы любой прыстойнасці», «Мы збянтэжаны». Парталу «Gazeta.pl» дэпутат Андрушкевіч, 26-гадовы ўраджэнец Граева, тлумачыў:

— Я лічу, што бянтэжаць такія каментарыі таму, што ў гэтым здымку я нічога не намякаў. Наадварот, я ясна напісаў, што я хацеў бы падкрэсліць прыгажосць Падляшша. Не было тут злога намеру з майго боку. Занадта шмат тут яду і адмоўных эмоцый. Калі б я напісаў нешта правацыйнае, то я мог бы зразумець такія рэакцыі, але там выразна напісана, што адзначаю кліматы Падляшша. Такія вывы рабіў я ўжо даступнымі не першы раз, напрыклад, з прывітаннем выбаршчыкам. Я парламентарый і не гуляю ў танныя правакацыі. Але я разумею, што інтэрнэт мае свае правы, і гэта ўсё.

Публікацыя фатаграфіі, а пасля пракаціўшаяся па працягу некалькіх дзён хваля каментарыяў супала (?) з запісам сеймавага «шэфа» аўтара фатаграфіі дэпутата Паўла Кукіза, лідара клуба «Кукіз-15» (4 сакавіка). На сваёй старонцы таго ж вэб-партала што і дэпутат Андрушкевіч змясціў ён на сваім посце фрагменты артыкула з «Газеты сучаснай», апісваючага злачынствы «Бурага» і напісаў так: «Калі тое, што ў спасылцы гэта праўда, калі забівалі людзей, каб іх жывымі спаліць, калі забівалі жанчын і дзяцей... Я думаю, што ІНП павінен старанна вывучыць постаці некаторых праклятых. Таму што калі тое, што ў спасылцы гэта праўда, то калі збіраемся паставіць у адзін рад «Інку» і злачынцу, не можам вінаваціць тых, што шануюць Бандэру. Калі тое, што ў спасылцы гэта праўда, мы павінны самі перад сабой выспаведацца. Каб захаваць сумленне і добрае імя герояў, якія змагаліся за Польшчу згодна з гонарам Польскага Салдата». На наступны дзень пасля публікацыі запіс перапаставаны быў больш чым 270 разоў, 1,7 тыс. у абсалютнай большасці адзначылі яго лайкам «падабаецца».

Можа здзіўляць недахоп ведаў дэпутата Кукіза, але гэта лепш, што ён пачаў набіраць іх позна, чым ніколі, як сказаў у сваёй заяве Тамаш Суліма, апроч усяго іншага, адзін з вядучых прамоўтараў ведаў аб злачынствах капітана Райса. У той жа час здымак дэпутата Андрушкевіча, незалежна ад таго, як сваю публікацыю сам ён абгрунтоўвае, немагчыма не звязаць з асаблівай, нахабнай правакацыяй, тым больш, што сам яе адправіў у кантэксце гайнаўскага маршу, якога галоўным героем быў «Буры», вінаваты ў забойстве таксама сям'і спадара Сяргея Нічыпарука, нягледзячы на тое, што ў адной з газет сам Сяргей Нічыпарук гаварыў мірным і дыпламатычным тонам: «Пан Адам Андрушкевіч прыехаў са знаёмымі. Ён быў у нас у гасцях, з'еў абед, за які заплаціў. Мы не забараняем нікому фатаграфаваць. Я рады, што нашым гасцям падабаецца наша гаспадарка. Мы наведвальнікаў не падзяляем па іх палітычных поглядах».

На мой погляд, справай павінна заняцца парламенцкая камісія па этыцы дэпутатаў, а пазіцыю заняць камісія па нацыянальных і этнічных меншасцях. Таксама сам старшыня Кукіз павінен звярнуцца непасрэдна да — як я лічу — гэтай правакацыі «свайго» дэпутата. Асабліва таму, што можа ён мець магчымасць пакарыстацца запрашэннем бургамістра горада Бельска-Падляшскага Яраслава Бароўскага, апублікаваным пад яго анлайн-запісам: «... інтэрнэт гэта інтэрнэт, а рэальнае — рэальнае. Я сардэчна запрашаю Вас, паразмаўляем, пазнаёміцеся з пунктам гледжання мясцовай супольнасці».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Разам пра Пушчу — супольнае дабро



■ Галоўныя дыскутанты-эколагі — Міраслаў Стэпанюк (былы дырэктар БНП), Кшыштаф Шмідт, Зянон Кручынскі, Адам Богдан

У апошнія дні жыхары Польшчы атрымлівалі супярэчлівую інфармацыю, датычную дазволу на валку дрэў і змяненняў, унесеных у «план кіравання лесам» для Пушчы, — адзначыў Караль Высоцкі з Партыі Разам, якая ў пятніцу 26 лютага правяла канферэнцыю пра будучыню Белавежскай пушчы. — Спачатку Рэгіянальная дырэкцыя па ахове асяроддзя станоўча адклікалася на высечку 188 тыс. кубічных метраў дрэў у пушчы. У апошні час Міністэрства аховы асяроддзя аб'явіла, што ў пушчы адбудзецца парадкаванне і будзе праводзіцца яно да таго часу, пакуль не будзе завершаны візіт прадстаўнікоў ЮНЕСКА, тая высечка не будзе пачата. Цяпер аказваецца, што ўсе рашэнні ў чаканні, пакуль не прыбудзе дэлегацыя ЮНЕСКА, якая прыедзе ў сярэдзіне сакавіка. Як было адзначана прадстаўнікамі Партыі Разам, адсутнасць яснасці перадачы і інфармацыйны шум вакол тэмы высечак спрычыняецца да таго, што ў нашым рэгіёне яшчэ не было праведзена грунтоўнае абмеркаванне па пытанні аб абароне агульнага дабра, якім з'яўляецца Белавежская пушча. Можна паглядзець на воклічы. РДАА: «У Белавежскай пушчы можна рэзаць». Эколагі: «Гэта чорны сцэнарый!». Па гэтай прычыне мы запрасілі ўсіх да дыскусіі аб бягучай сітуацыі, а звязанай з прапановамі міністра аховы асяроддзя. Мы запрасілі ўсіх, хто мае ў сэрцы карысць пушчы. Хочам пачуць меркаванні навукоўцаў, актывістаў-эколагаў, а таксама леснікоў, мясцовых органаў улады і жыхароў Гайнаўшчыны. Прынялі запрашэнне прадстаўнікі Рэгіянальнай дырэкцыі аховы асяроддзя, Рэгіянальнай дырэкцыі дзяржаўных лясоў (на жаль, у апошні момант адмовіліся) і эколагаў.

❖ ❖ ❖

Белавежская пушча распалажана ў нізіннай умеранай зоне на паўночным паўшар'і. Ахоўвалася як цэласць літоўскімі князямі, польскімі каралямі і расійскімі царамі, перажыла практычна без змен аж да Першай сусветнай вайны, калі нямецкія акупацыйныя ўлады пачалі высечку. Сёння многія часткі лесу страцілі свой натуральны характар. Тым не менш, нават па-за межамі ахоўных тэрыторый, можна ўбачыць тут фрагменты лесу, які шмат стагоддзяў таму пакрываў быў Еўропу. Большасць з іх, вядома, там, дзе пушча пад аховай.

Лепш за ўсё захаваўся фрагмент размешчаны ў межах строгага запаведніка, налічваючага 50 квадратных кіламетраў, які з'яўляецца цэнтральнай часткай Белавежскага нацыянальнага парку і лічыцца першым польскім нацыянальным паркам. Ён быў створаны ў 1921 годзе як лясніцтва «Рэзерват». У цяперашні час нацыянальны парк ахоплівае каля 100 км², што складае каля 1/5 польскай часткі Белавежскай пушчы (520 км²). Увесь комплекс разам з беларускай часткай Пушчы (якая пад аховай у цэласці) займае каля 1500 км². На працягу многіх гадоў ідзе барацьба за ахапленне ўсёй польскай часткі пушчы такой аховай. Дзякуючы дзеянням Greenpeace ўдалося скараціць на 60% колькасць ссечаных дрэў у пушчы і атрымаць дэкларацыю аб спыненні высечак больш чым 100-гадовага дрэвастою.

Белавежская пушча з'яўляецца найбуйнейшым прыродным лясным комплексам у Еўропе, сховішчам для многіх рэдкіх і знікаючых відаў жывёл і раслін. Уведзена яна ЮНЕСКА ў спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, з'яўляецца адной з ахоўных тэрыторый Natura 2000. Белавежскі нацыянальны парк ахоплівае толькі невялікую частку пушчы. Астатняй польскай часткай пушчы адмініструюць тры надлясніцтвы: Белавежскае, Гайнаўскае і Броўск (з сядзібай у Грушках).

Белавежская пушча з'яўляецца не толькі нацыянальным скарбам, але і месцам, дзе жыве і працуе шмат людзей. У самой Белавежы жыве каля 2200 чалавек, з якіх большая частка працуе ў лясной гаспадарцы, лясной прамысловасці, але яшчэ больш — у турызме (БНП наведвае каля 120 000 турыстаў у год).

❖ ❖ ❖

Па меркаваннях сацыёлагаў, стаўленне да аховы прыроды з'яўляецца адной з асноўных раздзяляльных ліній паміж жыхарамі гміны. Некаторыя лічаць, што гэты канфлікт у значнай ступені відавочна штучна раздзьмуханы па палітычных прычынах. Абодвум бакам, па сутнасці, залежыць перш за ўсё на ўнікальнай прыродзе і захаванні біяразнастайнасці пушчы.

У маі 2014 года кантроль Найвышэйшай кантрольнай палаты паказаў, што гаспадарка ведзеная на тэрыторыі надлясніцтваў Белавежа, Гайнаўка і Броўск не забяспечвае дастатковай аховы каштоўнага дрэвастою. Між тым, пасля нядаўніх парламенцкіх выбараў надлясніцтва Белавежа прапанавала пяцікратнае павелічэнне ліміту высечкі лесу. Дырэкцыя дзяржаўных лясоў абгрунтоўвае сваё рашэнне тым, што высечка павінна быць павялічана з-за пашкоджанняў, выкліканых засяляючым пушчу яловым караедам-друкаром. Эколагі лічаць, што пагроза перабольшаная (елка складвае толькі 30% ад усіх лясных насаджэнняў Белавежскай пушчы), і трэба дазволіць, каб пушчу фармавалі прыродныя працэсы, так як адбывалася да гэтага часу. Градацыя караедаў траплялася ў пушчы неаднаразова і лес сам аднаўляўся. Пацяпленне клімату выклікае адступленне яліны па поўначы, таму яе доля ў дрэвастою Белавежжа і так будзе змяншацца. Яе замена на іншы дрэвастой мае месца станоўчае ўздзеянне на біяразнастайнасць.

❖ ❖ ❖

Удзельнікі дыскусіі меркавалі, што прапанова надлясніцтва здаецца быць матываванай не столькі жаданнем ахоўваць Белавежскую пушчу, як жаданнем павелічэння здабычы драўніны. Мэту дзеянняў Дзяржаўных лясоў вызначае закон ад 28 верасня 1991 года аб лясах. Першай з гэтых задач з'яўляецца захаванне лясоў; другой — ахоўванне лясоў, асабліва каштоўных. Рацыянальнае вядзенне здабычы драўніны згадваецца толькі на пятым месцы. Партыя Разам лічыць дзеянні надлясніцтва кардынальна супярэчлівымі з першымі мэтамі. На іх думку, не мае гэта таксама нічога супольнага з рацыянальным гаспадараннем. Змена не прынясе большай эканамічнай карысці ані жыхарам гмін Белавежжа, ані краіне, а ўплыў павелічэння высечкі на кошты абагравання ці матэрыялаў для драўніннай прамысловасці будзе мінімальным. Партыя Разам рашуча патрабуе ад дырэкцыі Дзяржаўных лясоў і Міністэрства аховы адмаўлення ад гэтай задумы. Лічыць, што гэтая тэма, такая важная для нашага рэгіёна, павінна стаць прадметам сур'ёзнай дыскусіі, якая выйдзе за межы вузкага кола спецыялістаў і не спыніцца ў момант непазбежнага сцішэння медыйнага шуму.

— Белавежская пушча з'яўляецца найбуйнейшым у Еўропе натуральным лясным комплексам і сапраўды ўнікальнай экасістэмай. Гэта частка нашага нацыянальнага здабытку, які не можа быць падвергнуты логіцы прыбытку і высечаны. Мы звяртаемся да прэм'ер-міністр Беаты Шыдла, міністра аховы асяроддзя Яна Шышкі і Упраўлення дзяржаўных лясоў адмовіцца ад ідэі павелічэння ліміту па нарыхтоўцы драўніны ў Белавежскай пушчы, — кажа Юстына Рэмбішэўская з Партыі Разам.

Да традыцыйнага палохання гніллю і караедам даходзіць новае — пажары. Такія планы Міністэрства навакольнага асяроддзя і Дзяржаўных лясоў — высечы і вывезці сухую яліну. Гэта радыкальнае змяненне ў параўнанні з мінулымі гадамі. Чарговыя міністры асяроддзя ўрадаў ГП-ПСЛ прывялі да значнага скарачэння высечак. Гэтыя дрэвастоі, якія мелі больш за сто гадоў, былі абаронены, а здабыча драўніны ўпала з 100-150 тысяч кубічных метраў у год да 48 тысяч — столькі прадбачваў зацверджаны «план кіравання лесам» на перыяд 2012-2021 гадоў. Гэта была кампрамісная распрацоўка, якую зрабіла група па справах пушчы пры прэзідэнце Леху Качынскім. Дзякуючы гэтым дзеянням белавежскі лес пачаў аднаўляць свой натуральны характар, Еўрапейская камісія прыпыніла справу супраць Польшчы за парушэнне дырэктывы па ахове прыроды, і ўся пушча была ўганаравана званнем сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

❖ ❖ ❖

Усё пачало змяняцца, калі верагоднасць перамогі на выбарах ПіС стала рэальнай. Вясной 2015 года, без праўядзення кансультацый з няўрадавымі арганізацыямі, тагачасны дырэктар Дзяржаўных лясоў Адам Васяк павялічыў узровень высечкі на 35 тыс. кубічных метраў. Тады леснікі хутка пачалі рыхтаваць папраўкі ў «Плане кіравання лесам», каб быў адпаведны з поглядамі будучага міністра асяроддзя.

Ян Шышка яшчэ ў сярэдзіне 2014 г. казаў, што пушча гніе і трэба ў ёй вырэзваць 200 тысяч кубаметраў драўніны ў год. Неўзабаве пасля ўступлення на пасаду ён наведаў белавежскія надлясніцтвы. Пасля гэтага візіту надлясніцтва Белавежа публічна аб'явіла дадатак да «Плана кіравання лесам», які прадугледжвае высечку ў памеры да 52 тыс. м³ у год. Гэта ў восем разоў больш чым раней, таму што папярэдні «план» для надлясніцтва Белавежа прадугледжваў 6 тысяч м³. Акрамя таго, пад сякерай маюць легчы дрэвы, якім больш за сто гадоў. Падобна ў іншых надлясніцтвах. Леснікі тлумачаць планы высечкі неабходнасцю памяншэння велізарнай градацыі яловага караеда, які ў апошнія тры гады забіў елкі аб'ёмам каля 500 тыс. кубічных метраў на прыблізна 4-х тысячах гектараў. Яны не дадаюць, аднак, што ўжо былі большыя градацыі, але займае гэта менш чым 10 адсоткаў паверхні пушчы, а ўся яліна ў пушчы мае масу 5 мільёнаў кубічных метраў. Не кажучы таксама, што паміраючая яліна дае месца жыцця для многіх рэдкіх відаў, а таксама пра тое, што лес у такіх месцах дае рады абнавіцца натуральным шляхам. І не ўспамінаюць, што 30 працэнтаў планаванай высечкі, значыць, гэта дзясяткі тысяч дрэў, з якімі караед не мае нічога супольнага (хаця бывае, што яловы караед зачапае таксама і хваіну).

Белавежская пушча мае ў агульнай складанасці 60 тысяч гектараў. Яе самая каштоўная прыродная частка захоўваецца ў парку (9 000 га) і рэзерватах у трох прылеглых да пушчы надлясніцтвах (разам запаведнікі складаюць 12 000 га). Там нічога не высякаецца наогул. Астатні гэта звычайны лес, дзе вядзецца гаспадарка з прымяненнем спецыяльных ахоўных умоў (Natura 2000). Па гэтай прычыне на працягу апошніх некалькіх гадоў лесарубныя работы былі вельмі абмежаванымі. Кожнае надлясніцтва рэзала 1/10 таго, што сярэдняе надлясніцтва ў Польшчы. У выніку гэтага распаўсюдзіўся той яловы караед — кузурка, якая намнажаецца на тры пакаленні ў год. Ён атакуе здаровыя яліны і нават іншыя віды іглічных дрэў. Адзіны спосаб, каб выдаліць градацыйныя ўспышкі, гэта высечка заселеных дрэў і вываз іх з лесу, перш чым караеды вылецяць на вывядзенне наступнага пакалення насякомых.

Вынікам з'яўляецца тое, што трэба анексаваць высечку і адтуль тыя планы высечкі ў памеры 52 000 кубічных метраў у год (+/- столькі ж, колькі напрыклад у Непаламіцах). Можа адтуль крык эколагаў? Нават калі прыняць «катастрафічны» сцэнарый для трох надлясніцтваў, здабыча драўніны налічыць 3 х 50, значыць, 150 тысяч кубаметраў драўніны ў год. Мяркуючы, што ў сярэднім гэта 250 метраў драўніны на гектар, ахопіць гэта каля 600 га з 60 тысяч гектараў агульнай плошчы: 1% ад агульнай сумы. Там лес будзе заменены новым пакаленнем. Гэта па-за паркам і запаведнікам, дзе караед можа жэрці сабе ўволю, а яліны — выварочвацца і парахнець.

❖ ❖ ❖

Прадказанне велізарнага прыбытку ад планаванай высечкі — ці гэта не маніпуляцыя? Драўніна з калідорамі кузурак з'яўляецца горшым класам сыравіны. Прадаецца яе каля 90 злотых за метр, нават у 10 разоў танней чым сырыя піламатэрыялы. Ідзе яна на дровы, паперу або іншы перамол. Павелічэнне здабычы на 50 тысяч кубічных метраў на надлясніцтва складзе прыбытак 13,5 мільёна злотых. Гэта не даход, не прыбытак, бо ад высечкі і вывазкі сыравіны і насаджэння маладых дрэўцаў трэба вылічыць амаль 12 мільёнаў. Застаецца 1,5 мільёна злотых у год. Для кожнага надлясніцтва адно 500 тысяч злотых.

Эколагі лічаць, што Белавежская пушча павінна быць «у цэласці ахоплена спецыяльнай аховай, якой яна заслугоўвае».

Апошняе рашэнне міністра Яна Шышкі з 13 сакавіка: адна трэць загаспадараных надлясніцтваў застанецца ў стане без умяшання чалавека, а ў апошняй будуць кіравацца да таго, каб прытармазіць працэс дэструкцыі і ахоўваць віды.
Мае яна паддавацца «дзеянням галіны экалагічнай інжынерыі».

❖ Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Вынік апытання НФЗ

У лістападзе мінулага года Нацыянальны фонд здароўя правёў апытанне сярод пацыентаў на тэму ўзроўню задавальнення з атрыманых паслуг у асноўнай медыцынскай апецы (ПОЗ)

І так: пацыенты станоўча ацанілі даступнасць да тэлефоннай рэгістрацыі (лёгка дазваніцца). 60 працэнтаў рэспандэнтаў пазітыўна ацаніла даступнасць да абследаванняў, даручаных сямейным лекарам, 2/3 апытаных адказала, што ў пунктах ПОЗ можна пакарыстацца інфармацыяй аб правах пацыента, а 3/4 што правы гэтыя ўшаноўваюцца, 80% адказала, што атрыманая інфармацыя аб стане здароўя была зразумелая, а 2/3 канстатавала, што ў ПОЗ беспраблемна можна пакарыстацца інфармацыяй на тэму прафілактычных праграм, фінансаваных НФЗ. І ў завяршэнні апытанняў узровень задавальнення ад атрыманых паслуг у рамках ПОЗ 40% рэспандэнтаў ацаніла вельмі добра, 25% — станоўча, 7% — дало самую нізкую ацэнку.

Апытанне праводзілася ў лістападзе 2015 г. сярод 35 тысяч пацыентаў, якія пакарысталіся паслугамі НФЗ у перыядзе апошніх дванаццаці месяцаў. **(ус)**

## Занядбаная плошча

Жыллёвы пасёлак Лясная Даліна — адзін са шматлікіх пасёлкаў у Беластоку. Ён вялікі і абжыты. Ад цэнтра горада можна да яго даехаць аўтобусамі гарадской камунікацыі № 12 і 20. Можна імі даехаць і ў Старасельцы. На праезд трэба патраціць крыху часу, хаця ездзяць яны даволі часта.

Паміж шматсямейнымі блокамі пры вуліцах Шарых Шэрэгаў і Арміі Краёвай знаходзіцца даволі абшырная незабудаваная плошча. Яна штосьці як занядбаны міні-парк. Тут растуць пераважна ліставыя дрэвы і кустарнікі. Ёсць спартыўная пляцоўка з варотамі ды пясочніца для дзіцячых гульняў. Бліжэй жылых шматсямейных будынкаў стаяць кантэйнеры для смецця.

Калі ёсць вольная плошча, тады жыхары сталі пратоптваць сабе сцяжынкі напраcткі і наўскрыж. Там, дзе найбольш іх ходзіць, пачалі пракладку тратуара ды не закончылі, пакінулі дый годзе. Зараз спяшаеш да аўтобуса напрасткі і раптам тратуар абрываецца... Далей пясок ды раскінутыя на баку тратуарныя пліты. Зараз, калі растаў снег, тут балота і стаяць лужы. Каб навесці парадак на міжблокавай пляцоўцы, як дагэтуль у пасялковай «Wspólnocie Mieszkaniowej» ніхто не падумаў. Не відаць тут рукі добрага гаспадара. **(яц)**

## Будзе больш камунальных кватэр

У 2012 годзе ў Беластоку здалі ў карыстанне 83 камунальныя кватэры ў блоках па вуліцы Барсучай на пасёлку Дайліды. У 2014 годзе тут у чарговым новым блоку пасяляліся 37 сем'яў. Пабудавала іх гміна.

Сёлета Праўленне камунальнай маёмасці (ПКМ) у Беластоку пачне пры вуліцы Барсучай пабудову блока на 32 жылыя кватэры. Інвестыцыю закончаць у першай палове 2017 года.

Беластоцкае ПКМ будуе таксама шмат жылых блокаў па вуліцы Бэма. У студзені гэтага года на гэтым пасёлку ў новым блоку атрымалі кватэры 70 сем'яў. 101 кватэру тут здадуць у карыстанне ў канцы 2016 года.

Камунальныя кватэры ў Беластоку запатрабаваныя. На г.зв. сацыяльныя кватэры (яны ў заніжаным стандарце) чакае больш двухсот чалавек. **(яц)**

# Абучаліся народным песням і танцам



Народным песням і танцам вучыла студзіводская „Жэмэрва”; справа — кіраўнік калектыву Анна Фіёнік і старшыня студзіводскага аб'яднання Дарафей Фіёнік



Удзельнікі майстар-класаў па даўніх песнях і танцах спяваюць у люстранай зале ГДК; на першым плане справа — старшыня гайнаўскага брацтва Люцына Рушук

**Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах” з'яўляецца саснавальнікам народнага калектыву „Жэмэрва” і народнай капэлы пры Студзіводскім музеі, якія ў супрацоўніцтве з народнымі калектывамі з Падляшша і Палесся прапагандуюць беларускі фальклор на Беласточчыне. Калі трапляю ў Студзіводы, мясцовыя самадзейнікі запрашаюць наведаць майстар-класы па народных беларускіх песнях і танцах, якія ў Гайнаўскім доме культуры арганізуе гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія, што дзейнічае пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. Абучэнне вядуць менавіта члены „Жэмэрвы” і студзіводскай капэлы.**

— Гэта ўжо чарговыя майстар-класы, падчас якіх вучым гайнаўян народным песням і танцам. Як папярэднія, так і цяперашнія майстар-класы закончацца практычным выкарыстаннем таго, чаму навучыліся, у час народных запустаў, якія адбудуцца ў Гайнаўскім доме культуры. Запрашаем на іх добра вядомы нашай публіцы калектыў „Хмелеўскія валацугі”, які многа разоў вадзіў карагоды па нашых вёсках падчас народных мерапрыемстваў, — кажа Дарафей Фіёнік, кіраўнік Студзіводскага музея, адной з мэт якога з'яўляецца прагандаванне народных песень і танцаў.

Анна Фіёнік, музычны і арганізацыйны кіраўнік „Жэмэрвы” ўдакладніла, што падобныя майстар-класы „Жэмэрва” арганізавала ў Сямятычах і Белавежы.

Калі 28 лютага заходжу ў Гайнаўскі дом культуры, ахвотныя абучацца народным песням і танцам ужо сабраліся. Старшыня гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Люцына Рушук кажа, што тыдзень раней сабралася больш ахвотных вучыцца традыцыйнаму спеву і танцам. На гэты раз грып прымусіў частку ўдзельнікаў майстар-класаў ляжаць у ложках. Заняткі спачатку пачынаюцца зарадкай, якая мае дапамагчы лепшаму спяванню.

— Я з народнымі песнямі выступала ўжо ў дзіцячым калектыве „Жэўжыкі” Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Спадабаўся мне народны рэпертуар і я рашылася спяваць з калектывам „Жэмэрва”. Народныя танцы таксама цікавыя, — сказала Дар'я Мартыновіч з „Жэмэрвы”.

Кіраўнік „Жэмэрвы” Анна Фіёнік кіравала ходам майстар-класаў. Разам з ёю заняткі па народнах спевах і танцах вялі Дар'я Мартыновіч, Віялета Боцюк і Малгажата Мацкевіч. Студзіводскую капэлу састаўляюць Дарафей Фіёнік, два яго сыны Максім і Ілья ды дзве скрыпачкі Віялета Боцюк і Ніка Юрчук.

— Мы вучым народным песням з Падляшша і Палесся. Зараз распаўсюджваецца мода на вяртанне да сваіх традыцый. Удзельнікі майстар-класаў вучацца спяваць даўнія песні і танцаваць па-народнаму. Калектыў „Жэмэрва” дзейнічае з 2003 года і праз яго прайшло каля 50 асоб. Спачатку былі гэта вучні, якія ўдзельнічалі ў летніх майстар-класах, арганізаваных Студзіводскім музеем, пасля далучыліся іншыя асобы. У пэўны момант у „Жэмэрве” выступала каля 20 чалавек. Побач спеву і танцаў мы паказвалі народныя абрады. Бачым, што наша праца, якую мы пачалі дванаццаць гадоў таму, не прапала, што паяўляюцца новыя прыхільнікі аўтэнтычнага фальклору. Спевы і танцы — частка нашага фальклору. Нашы продкі раздзялялі час згодна з царкоўным календаром і прыроднымі назіраннямі. Цяпер рыхтуемся да запустаў, якія гайнаўскае брацтва хоча правесці згодна з царкоўнымі традыцыямі і з ухілам на беларускі фальклор, — сказала Анна Фіёнік, кіраўнік „Жэмэрвы”.

Майстар-класы арганізавала Люцына Рушук, якая з восені мінулага года старшынюе гайнаўскаму аддзяленню Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва.

— Я рада, што мы вучымся спяваць песню, запісаную ў Ласінцы, адкуль я родам і дзе працавала настаўніцай. З дзяцінства памятаю, што наша вёска была расспяванай. Моладзь збіралася на лавачках і ахвотна спявала ў святочны час. Людзі спявалі на вяселлях, хрысцінах і іншых сямейных мерапрыемствах. Пасля спеў пачаў знікаць з вясковай прасторы, за выключэннем сямейных мерапрыемстваў. Нават мае вучні, якія не прападалі за спевам у школе, паказвалі сваю пявучасць на вяселлях. Важна, што наша моладзь хоча спяваць на роднай мове, — сказала старшыня брацтва Люцына Рушук, якой пры майстар-класах дапамагаюць скарбнік гайнаўскага брацтва Нэля Шчука і сакратар Юры Рыгаровіч. — Мы рашыліся аднавіць даўнія традыцыі, наладзілі супрацоўніцтва з Дарафеем Фіёнікам і калектывам „Жэмэрва”. Спачатку з дапамогай Студзіводскага музея арганізавалі „ёлку” для дзетак, пасля былі майстар-класы, якія завяршыліся запустамі з песнямі і танцамі. Зараз паўтараем гэта яшчэ раз. На нашы запусты заахвочваем прыйсці ў вышытых на даўнюю моду кашулях і блузках. На запустах будзем спяваць даўнія песні і танцаваць даўнія танцы („падыспан”, „лысы”, „кракавяк” — А. М.). Галоўным атракцыёнам запустаў мае быць выступ калектыву „Хмелеўскія валацугі”, мае выступіць яшчэ калектыў Гайнаўскага дома культуры.

Падчас першых майстар-класаў у народнай капэле выступаў Максім Фіёнік, а падчас другіх, калі сабраныя вучыліся народным танцам, бубніў Ілья Фіёнік. Удзельніцам заняткаў падабаюцца такія арыгінальныя майстар-класы.

— Вывучванне даўніх песень і танцаў для нас новае, але цікавае. Мы любілі спяваць і танцаваць у моладасці. Тут вучымся песням і танцам, якія развучвалі нашы бабулі або нават прабабулі, — заявілі жанчыны сярэдняга ўзросту.

Спадарыня Люцына ўдакладніла, што тыдзень раней у майстар-класах прынялі ўдзел дзеткі, моладзь і нават жанчыны пенсіённага ўзросту.

— Гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія займаецца перш за ўсё асветнай хрысціянскай дзейнасцю і працай у карысць праваслаўных жыхароў Гайнаўкі. Наша місія — ісці разам з Царквой. Мы выйшлі з прапановай арганізаваць пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, пры якім мы дзейнічаем, бібліятэку. Мы атрымалі крыху выданняў ад гайнаўскага праваслаўнага выдавецтва „Братчык”, а за сабраныя сродкі купілі духоўную літаратуру ў Пачаеўскай лаўры. Настаяцель нашага прыхода айцец Міхаіл Негярэвіч перадаў у бібліятэку даўно таму выдадзеныя кніжкі, унікумы, якімі можна будзе пакарыстацца на месцы. Спадзяемся на іншых ахвяравальнікаў нязнішчаных кніжак з духоўным зместам, які не супярэчыць праваслаўнаму навучанню. Сродкі на бібліятэку і іншыя нашы ініцыятывы мы збіралі падчас дабрачыннага балю, які арганізавалі зімой, і будзем збіраць у час запуставых гульняў. Плануем наведваць адзінокіх старэнькіх людзей, каб падбадзёрыць іх перамагаць жыццёвыя складанасці і дапамагчы ім у канкрэтных справах. Наша брацтва арганізавала фэсты здароўя і тры пешаходныя паломніцтвы ў Пачаеўскую лаўру. Гэтым летам дайшло на месца ажно каля 900 чалавек, бо па дарозе далучаліся да нас паломнікі з Беларусі і Украіны. Збіраем сродкі на нашу дзейнасць, бо толькі ў гэтым годзе на арганізацыю „ёлкі” і падарункі для дзетак выдаткавалі 8 тысяч злотых, — расказвала Люцына Рушук.

Гайнаўскае брацтва, духоўным апекуном якога з'яўляецца айцец Марк Юрчук са Свята-Троіцкага сабора, апошнім часам адзначыла 100 гадавіну бежанства, між іншым адбылася прэзентацыя кніжкі „Бежанства 1915 года”, выдадзенай Праграмнай радай тыднёвіка „Ніва”, і спектакль „Бежанцы”, пастаўлены тэатральнай групай Гайнаўскага белмузея, якую вядзе Іаанна Стэльмашук-Троц. Нядаўна брацтва наладзіла дэманстрацыю фільма Юрыя Каліны „Сярожа”.

— Ёсць многа планаў і таму запрашаем да нашага брацтва людзей ахвотных працаваць у карысць нашага асяроддзя.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Іконапісанне. Урок пакоры.



Раней іконы мы атаясамлівалі ў першую чаргу з усходнім хрысціянствам, дзе яны ўшаноўваліся ў цэрквах і манастырах. Толькі ў апошні час мы назіраем рост цікавасці да гэтай формы сакральнага мастацтва як у Каталіцкім касцёле, так і ў Польшчы. Усё часцей і часцей яны з'яўляюцца ў нашых храмах і дамах. **Ірэна Генсцінская** ўзрастала ў месцы, дзе не было ніякага сутыкнення з праваслаўем, а іконапісаннем захапілася дзякуючы манашцы з жаночага манастыра ў Бельгіі. Ікону яна лічыць не простай карцінай, а акном у Неба, якое набліжае да sacrum.

Іконы пераважна асацыююцца з працай выключнага характару. На самой справе прамаўляюць яны да нас мовай знакаў і сімвалаў. Да пятнаццатага стагоддзя пісанне ікон развівалася на тэрыторыях, якія былі пад уплывам візантыйскай культуры. Іконы пісаліся паводле рознай тэхнікі, між іншым, мазаікай, у рэльефе, эмаллю, аднак найчасцей пісалі іх на дошках яечнай тэмперай.

— Тэмперу нават цяпер маю зробленую і трымаю яе ў халадзільніку, — кажа Ірэна Генсцінская. — Каб маляваць такім стылем ікону, патрэбныя сухія пігменты, жаўток яйка, вада, і вядома — пэндзлікі. Дадам, што гэты метад ідэальна падыходзіць для ўсіх відаў жывапісу.

Іконы, якія паказваюцца ў музеях або прыватных калекцыях, несумненна, з'яўляюцца больш зразумелымі для гледача, які зблізку можа ім прыглядзецца. Неаслабная цікавасць да ікон, магчыма, вынікае з іх фармальных і іканаграфічных разнастайнасцей, адначасова спрыяе глыбейшаму разуменню і ацэнцы гэтай спадчыны. Магчыма, менавіта таму сучасныя іканапісцы творча ставяцца да гэтага жанру мастацтва, ствараючы вобразы натхнёныя іконамі або капіраваныя з іх любімых выяў.

— Я найчасцей цікавую для мяне ікону капірую на адмыслова падрыхтаванай дошцы, — кажа Ірэна Генсцінская. — Менавіта рыхтуе іх для мяне мясцовы сталяр з-пад Саколкі. Вядома, хаця капірую самыя вядомыя іконы: Хрыста, Багародзіцы, святых, аднак лічу, што напісаныя мною іконы таксама непаўторныя. Яны адлюстроўваюць мой стан духа, натхненне.



Ірэна Генсцінская нарадзілася і ўзрастала ў невялікім гарадку на Люблінішчыне. У тых ваколіцах не было ніводнай царквы, а з праваслаўем сутыкнулася толькі тады, калі асела ў падсакольскай Ліпіне. Першай праваслаўнай царквою, якую наведала, быў храм у Саколцы. Самым іконапісаннем захапілася ў Бельгіі. Там яна дапамагала ў жаночым каталіцкім манастыры. Адна з манашак пісала іконы. Сястра малявала ў свабодны ад іншых манастырскіх абавязкаў час.

— У яе не было майстэрні ці адмысловага пакойчыка. Яна не малявала на продаж. Можна сказаць, што яе іконы ствараліся з патрэбы сэрца, знутры, — успамінае Ірэна. — Там, у яе пакойчыку, я спазнала руплівую працу над іконай. З гэтай хвіліны ўва мне ўзнік запал. Аднак доўгі час я не мела смеласці, каб самой заняцца іканапісам.

Манашка-бенедыктынка раскрыла перад Ірэнай сваю душу, падзялілася вопытам.

— Яна навучыла мяне не толькі пісаць іконы, але таксама адмысловай формы малітвы, — кажа Ірэна. — Напісанне іконы з'яўляецца доўгім і цяжкім працэсам. У іконе — дыханне Усходу, а там не лічылі часу, толькі малявалі Богу. Напісаць ікону можна толькі тады, калі маем час і не чакаем хуткіх вынікаў. Ікона ствараецца на працягу многіх месяцаў, — дадае Ірэна.

Яшчэ будучы ў Бельгіі Ірэна купіла першую кнігу пра іконы Праваслаўнай царквы. Для яе гэта быў своеасаблівы падручнік, па якім працягвала вывучэнне гэтай формы мастацтва. Тады Ірэна напісала сваю першую ікону. Калі хацела развіваць свае здольнасці, Ірэна даведалася, што хварэе на рака. Тады вырашыла, што змагацца з хваробай будзе на радзіме. Супольна з мужам, які сам родам з Саколкі, пасяліліся ў Ліпіне. Тут яна знайшла спакой і час так патрэбны пры гэтым жанры мастацтва. Іконапісанне стала для Ірэны свайго роду тэрапіяй, якая давала ёй сілы ў змаганні з хваробай.

— Праца над іконай з'яўляецца вельмі абнадзейваючай. Малітва, спакой, праца адказваюць на пэўныя чалавечыя жаданні і патрэбы, — кажа Ірэна. — Іконапісанне дазваляе адкрыць сваю веру, каб зразумець некаторыя яе ісціны. Такія людзі як я, якія ніколі іканапісам не займаліся, раптам адкрываюць вялікую радасць, вялікія каштоўнасці і нават місійнасць. Яны хочуць абдорваць іконамі сваіх сяброў або членаў сям'і.

Ірэна прызнаецца, што на Падляшшы сустрэлася са шматкультурнасцю. Зведала гарадкі і вёсачкі, у якіх побач стаяць цэрквы, мячэці ці сінагогі. Сама цяпер жыве ў вёсачцы, якую насяляюць як каталікі, так і праваслаўныя. Аднак тут таксама першы раз сутыкнулася з поглядам, што іконапісанне належыць гэтым другім. Паводле яе нельга абмяжоўваць другога чалавека толькі па прычыне яго веравызнання.

— Я хацела б адзначыць, што іконы паходзяць ад традыцыі адзінага Касцёла, непадзеленага на каталіцкі Захад і праваслаўны Усход, — тлумачыць Ірэна. — Гэта супольная спадчына як першых, так і другіх, і, безумоўна, можа аб'ядноўваць усіх хрысціян. Для мяне вельмі прыгожае, што на момант пісання іконы мы можам неяк аб'яднацца з асобай, выяву якой мы ствараем праз ікону, маліцца да яе і нават звярнуцца з просьбай аб дапамогу падчас гэтай працы.

Сама Ірэна не толькі спазнала тысячагадовую традыцыю, дзякуючы каталіцкай манашцы, але таксама развівала свае здольнасці на майстар-класах, лджаных айцамі езуітамі з Варшавы.

— Я думаю, што наш Касцёл — так вернікі, як і святары — усё часцей прызнаюць сур'ёзнасць іконы, яе прыгажосць і важнасць зместу, які сабой уяўляе, — тлумачыць Ірэна. — Я ведаю, што яна не дасягнула такой папулярнасці, якую мы можам назіраць у праваслаўі, але напэўна яны будуць з'яўляцца ў нашых касцёлах і дамах усё часцей. Напэўна гэта звязана з аднаго боку з вяртаннем да каранёў хрысціянства, а з другога боку, усё больш і больш папулярным адыходам ад сучаснага, мадэрнісцкага сакральнага мастацтва, часта неахайнага, якое не нясе ніводнай глыбіні.

Нядаўна сакольская бібліятэка зладзіла першую выстаўку прац Ірэны Генсцінскай, якую можна аглядаць яшчэ да канца сакавіка. Раней мастачка ніколі не паказвала сваіх ікон большай аўдыторыі. Таксама ніколі не прадала ніводнай сваёй працы. Найчасцей абдорвае імі сваю сям'ю і сяброў. Кожная новая ікона, гэта для Ірэны выклік і адкрыванне новых, яшчэ не спазнаных ёю таямніц іконапісання.

— Думаю, што кожны іканапісец вучыцца цэлае жыццё, — кажа Ірэна. — Ёсць шмат школ, якія адрозніваюцца ў дэталях працы. У іх ёсць свае сакрэты, якімі час ад часу абменьваюцца. Я думаю, што калі хтосьці сапраўды таленавіты, мае эстэтычныя пачуцці і адпаведныя веды, павінен працягваць працу над іконамі. Пасля напісання адной я сапраўды зразу хацела ўзяцца за наступную, ужо іншую.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Пра караеда, дзятла і елкі

Міра Лукша — перш за ўсё паэтэса. А вядома, каб пісаць вершы, трэба крышку адарвацца ад зямлі, прынамсі на вяршыню дрэў, а найлепш дзесьці ў хмары, каб паглядзець на рэчаіснасць не скажоную палітыкай. Бо палітыка не з'яўляецца крыніцай паэтычнага натхнення.

Не, Міры Лукшы захацелася быць публіцысткай (?). Пытае: «Хто важнейшы — караед, дзяцел, елка ці чалавек?». Калі б так спытаў слаўны вандроўнік па Беласточчыне, ніўскі журналіст, то я мог бы яшчэ зразумець, але паэт!? Пэўна, можна ў творчай хвіліне натхнення параўнаць чалавека да «карычневага насякомага» ў выглядзе «цыліндрычнага корпуса», караеда; можна нават параўнаць чалавека да дзятла, які дзяўбе; чалавек, не дзяцел, дзяўбе штодзённае жыццё, каб неяк пражыць яго на тым свеце. Можна параўнаць чалавека і да стройнай елкі, чаму не, якой задрыпаны караед гэта проста толькі караед, на якога шкада і кропелькі жывіцы.

Але на пытанне: «Хто важнейшы — караед, дзяцел, елка ці чалавек?» наогул кожны адкажа што чалавек, бо не кожны ведае кантэкст гэтага пытання. А Міра Лукша гэты кантэкст знае, змястоўна яго апісвае ў артыкуле «Хто важнейшы — караед, дзяцел, елка ці чалавек?» («Ніва» № 8/2016), але ўсё ж такі пытае, хоць зусім іншай з'яўляецца «важнасць» караеда, дзятла ці елкі, а чым іншым «важнасць» чалавека. Для Белавежскай пушчы, «skarbu natury na skalę światową» («Часопіс» № 1/2016: Ewa Zwierzyńska, «Ekologia pod naporem ideologii. Puszczański poligon») важнымі з'яўляюцца караед, дзяцел, елка і чалавек, якога свядомасць не дазваляе знішчаць скарб, тым болей сусветны скарб натуры. Ну, але свядомасць не можа быць скажоная ідэалогіяй.

Зацікаўленым праблемай высякання Пушчы, і не толькі, рэкамендую інтэрв'ю Бажэны Аксаміт з Зянонам Кручынскім пад загалоўкам «Nienawiść w Puszczy» («Duży Format» dodatek do «Gazety Wyborczej» z 4 lutego 2016 r. — *Rozmowa o zabijaniu i wycinaniu*).

Быў я разгублены: пісаць яшчэ раз пра Пушчу, і яшчэ раз, бо і так ніякія аргументы, каб яе не кранаць, не даходзяць да кіруючых колаў. Але няхай будзе, напісаў яшчэ раз. Можа аднак Міра зразумее, што гэта значыць мець такі натуральны скарб, з усімі караедамі, дзятламі і елкамі. Аднак пры тым падумаў, што будзе лепш, калі дашлю «Duży Format» рэдакцыі «Нівы», каб Міра Лукша, і можа не толькі яна, прачытала інтэрв'ю Бажэны Аксаміт са зразуменнем. Інтэрв'ю змястоўнае, многа ў ім аргументаў, якія аспрэчваюць вывады Міры Лукшы. Не дасылаў бы, але аўтарка артыкула, калі пытае: «Што зробіць караед, калі спустошыць усе елі?», ды піша пра Баварскі лес: «можа хопіць паглядзець «месячны краявід» у Баварскіх лясах і паўтарыць гэты досвед? Пасля спустошэнняў, якія робіць караед-друкар, невядома ці лес увогуле адбудуецца». Вядома, «Баварскі лес» па дваццаці гадах адбудаваўся, але той з нямецкай стараны, бо немцы, нічога з ім не рабілі ў адрозненні ад чэхаў, якія па градацыі лесу караедам высеклі яго і вывезлі. А нацыянальны парк Шумава зараз выглядае так, быццам караед-друкар перад хвілінай перастаў друкаваць (за фрагментам інтэрв'ю Бажэны Аксаміт з Зянонам Кручынскім). Спадар Кручынскі здзіўляецца, што нашы людзі вераць леснікам, а не вераць «naukowcom, parkowcom, socjologom, ekonomistom środowiska, GUS-owi, organizacjom turystycznym, politycznym i przyrodniczym głosom z Unii Europejskiej i ze świata» (цытата з інтэрв'ю).

А так пры нагодзе, Міра аб'явілася спецыялісткай па караедах, дзятлах і елках. На пенсіі яна ўжо, ці як? А што з вершамі, якія чакаюць яе таленту? Пра караедаў, як бачым, кожны можа пісаць, а натхнення ад Усявышняга не кожны дастойны.

**Міхась КУПТЭЛЬ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

Фота Улі ШУБЗДЫ

# Максімальны поспех Міколы Здрайкоўскага!

**Уршуля Шубзда**: — Віншую з вынікам! Ведаю, што бацькі і настаўніца вельмі цешацца Тваім бліскучым поспехам у прадметным конкурсе па беларускай мове. Што Ты адчуваеш?

**Мікола Здрайкоўскі**: — Мне радасна. Я вельмі ўцешыўся, калі абвясцілі вынікі.

**— Прычына поспеху пэўна крыецца, перш за ўсё, у гэтым, што вывучаеш беларускую мову і карыстаешся ёю ў штодзённым жыцці?**

— Пэўна так. Калі я даведаўся, што магу прымаць удзел у конкурсе, падумаў сабе: „Чаму не?!". Пайшоў я да маёй настаўніцы спадарыні Аліны Ваўранюк на падрыхтоўку. З таго часу пачаў больш пільна вучыцца. Спадарыня Аліна дала нам шмат матэрыялаў, якія трэба было апрацоўваць таксама ў хаце. Крыху матэрыялу мы перараблялі на занятках, але таксама былі дадатковыя сустрэчы, якія былі ўжо ладжаны адмыслова пад конкурс.

**— Якія эмоцыі Ты адчуваў перад конкурсам?**

— Крышку нерваваўся. І сумняваўся, што не ўдасца добра напісаць.

**— Колькі асоб з Твайго класа адважылася праверыць свае веды ў прадметным конкурсе па беларускай мове?**

— У ваяводскіх адборах было нас трое. Мае сябры таксама сталі лаўрэатамі, але ім не ўдалося набраць усіх балаў.

**— Вельмі рэдка каму-небудзь гэта ўдаецца. Ты не зрабіў ніводнай памылкі!**

— Так. Я атрымаў шэсцьдзясят балаў на шэсцьдзясят магчымых.

**— А што дакладна Табе трэба было зрабіць у рамках падрыхтоўкі да конкурсу?**

— Мне трэба было вывучыць правілы правапісу „ў" нескладовага, акання... Таксама прачытаў адзінаццаць тэкстаў. На іх аснове трэба было адказаць на пытанні. Гэта былі апавяданні пра любоў да роднага, пра тое, каб не паводзіць сябе дрэнна ў жыцці, але таксама былі вершы.

**— Якіх аўтараў?**

— Напрыклад, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Канстанцыі Буйлы і Віктара Шведа.

**— Любіш вершы Віктара Шведа?**

— Так. Яны часам смешныя, а некаторыя сур'ёзныя.

**— Ці сам конкурс і інтэнсіўная падрыхтоўка да яго дапамагла Табе ў развіцці Тваіх зацікаўленняў?**

— Думаю, што з таго часу больш для мяне спадабалася пазнаванне моў.

**— А якія яшчэ мовы вывучаеш?**

— Расейскую, англійскаю і нямецкую. Англійскую мову пачаў вывучаць яшчэ ў садку. Нямецкую крыху ўжо ведаю, таму што мае сямейнікі жывуць у Германіі і яны мяне крыху вучаць.

**— А маеш такія планы, каб у наступным годзе прымаць удзел у конкурсах па іншых мовах?**

— Думаю, што паспрабую прыняць удзел у конкурсе па нямецкай мове.

**— Што можаш параіць вучням, якія ў прышлым годзе схочуць прыняць удзел у прадметным конкурсе?**

— Напэўна заахвочваю. У гэтым няма нічога страшнага. Будзеце мець вельмі многа часу, каб напісаць усё — аж паўтары гадзіны. Але трэба вучыцца.

**— Дзякую за размову!**

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**

Сільвія ГРЫКА, ПШ у Міхалове

## Верш пра вясну

Ходзіць вясна па свеце,
Топча сцяжынак многа.
Трымае кошык,
Нясе зелень...
Ходзіць вясна па лясах,
Дрэвы вітае,
На вуснах усмешку нясе,
Радасць людзям дае.
Ходзіць вясна па палях,
Сонны час разганяе,
Сяброў спатыкае.
Усміхаюцца людзі,
Радуюцца звяры:
Канец гэтай зімы!

## УВАГА КОНКУРС! № 12-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 27 сакавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Будуе дом
На дрэве ўлетку,
У чырвоных
Ходзіць ботах.
Славіць клёкатам палеткі,
Ежу ён нясе з балота
Любым
Родным
Дзеткам.
Б....

(М. Бусько)

**Адказ на загадкі № 8-16: божая кароўка, туман. Узнагароды, кубкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Анна Савіцкая, Зузанна Бакер з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, кніжку В. Сазонава «Суседскія былі» — Вікторыя Барэчка з Нараўкі. Віншуем!**



*Міра ЛУКША*

## Вербалоз

Ведаю не адну вярбу лаўровую,
каравую, дуплістую, суровую,
што з кожнай вясною коцікі пускае,
бліскуча-зялёны ліст раней распускае.
Той лісток шэра-блакітны спадсподу,
вербалоз мае вось такую прыроду.
Залатыя коцікі позняю вясною
вабяць к сабе пчолак у вясёлым роі.
Чырвона-карычневы пянёк малады,
а цёмна-шэры, калі ўваходзіць у гады.
Калі сцяць галіну, больш не адрастае,
і на пні вярбовым булава ўзнікае.
Ой ты, на балоце вербалоз самотны...
Вербачка лаўрова на багне дрымотнай...
У дупле глыбокім схавалася ліха,
дрэмле, робіць псоту і скавыча ціха.
Вецер заспявае ў тваёй чупрыне,
таемная твая слава ў песнях і быліне.

## Вершы Віктара Шведа

### Шасцігодак

Спытаўся ў мамы Косцік
У шасцігадовым узросце:
— Чаму высылаеш у школу
Без нашага таткі дазволу?

— Хачу каб маё дзіцятка
Хутчэй скончыла заняткі
І магло тады старацца
Здабыць замежную працу.

### Як найменш вучуся

— Ці ведаеш ты, мой сынок,
Колькі каштуе навука?
Плачу за кожны твой урок
Твая навука — мука.

— Цябе я, татка, зразумеў,
Вельмі ашчадна вучуся,
Забыўся тое, што ўмеў,
А ведаў новых баюся.

# Беларускія ўзоры і гарбатка з самавара

Дзень адкрытых дзвярэй у беластоцкай Гімназіі № 7 атрымаўся ў разгар масленіцы, 9 сакавіка. Навучэнцы беларускай мовы і настаўніца Альжбета Рудкоўская ведалі як звабіць наведвальнікаў. З іх прамацыйнага прылаўка лупалі пахі масленічных бліноў, аладак і «хрустаў» ды духмяны гарбаткі з самавара. Разам з гэтым нашы сябры прэзентавалі свае беларускія конкурсы, мерапрыемствы і дасягненні. Дзеля гэтага паслужыла хроніка, якую з гэтага года сталі весці першакласнікі. Частка здымкаў была ўключана ў мультымедыйную прэзентацыю. Паколькі пераказ быў каларытны і смачны, шмат моладзі пазнаёмілася з прапановай. Праўда, выпускнікоў з беластоцкай «чацвёркі» не трэба спецыяльна намаўляць, каб запісаліся ў Гімназію № 7. Частка з іх жадае далей вывучаць родную беларускую мову.

Беларуская прэзентацыя папоўнілася падборкай народных узораў у вышыванках і ткацтве.

# Польска-беларуская крыжаванка № 12-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў «Зорку». Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8:**

Космас, кафэ, сцёк, экспазэ, эксперымент, жанр, ніц, на, нота, Львоў. Ікс, экран, спорт, спех, цар, слёзы, кеміць, ар, но, востараў.

Узнагароды, аўтаручкі-«ценкапісы», выйгралі **Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Габрыела Карбоўская, Раксана Івацік, Оля Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Міхал Тапалянскі** з Нарвы, **Агнешка Здаsucceeded**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Boks / Woda | | Kanapa | Ale | | | | |
| | Szum / Szał | Oka / Kula | | | | | Krewni / Ażur | | Krok | |
| | Czekolada / Port | | | | | | | | Iwan | Kora |
| Przebiśnieg | | | | | | | | | | |
| | | | | | | Wyobra-żenie | | | | |
| Morze / Wstążka | | | | Pir | | | | Ar | | |
| | | | | | | | Janka | | | |

# Постаць годная памяці беларусаў Беласточчыны

З радасцю сустрэла я ў „Ніве” (№ 7, ад 14.02.2016 г., с. 10-11) артыкул Уршулі Шубзды пра „новы помнік” кс. Яну Семашкевічу на Сакольшчыне. З цікавасцю яго прачытала, асабліва як першы даследчык яго жыцця і дзейнасці на Беласточчыне. Дваццаць гадоў таму назад я адкрывала беларусам апошнія гады жыцця паэта Янкі Быліны, як падпісаў свае творы кс. Ян Семашкевіч. На пошукі натхнілі мяне тады памылковыя інфармацыі ў біябібліяграфічным слоўніку „Беларускія пісьменнікі” (т. 1, Мінск 1992, с. 444-445). Яны мяне проста ашаламілі, бо паводле іх кс. Ян Семашкевіч памёр у блізкім майму сэрцу Міхалове-Нязбудным у 1955 г. 17 лютага 1996 г. падчас „Сустрэч „Зоркі”” на экскурсіі ў Ялоўцы пад касцёлам расказвала я дзецям, што ў ім перад вайной (у 1937-1939 гг.) служыў беларускі паэт Янка Быліна, які пісаў байкі і вершы, падпісваючы іх псеўданімам Янка Ялавец. Тады я яшчэ не ведала, што расказвала гэта дзень перад 40-й гадавінай яго смерці.

Як я ўжо ўспомніла, на пошукі слядоў кс. Яна Семашкевіча падштурхнула мяне Міхалова. Там людзі помнілі, што такі ксёндз у іх несумненна быў падчас вайны, і „за саветамі”, і „за немцамі”, але хутка пасля вайны выехаў. Куды — не ведалі, прынамсі тыя, якіх я пытала. І тут дапамог наш вядомы гісторык Юрка Туронак, які сказаў, што памёр ён недзе пад Саколкай. Перагляянуўшы свой архіў, паведаміў мне, што Янка Быліна памёр у Бомблі. Знайшла я такую мясціну на карце і адной жнівеньскай раніцай паехала туды на аўтобусе. Выйшла я на прыпынку ў вёсцы, але аказалася, што касцёл знаходзіцца на горцы паміж дзвюма вёскамі — Бомбляй і Пшэслаўкай. Уразіў ён мяне сучаснай бетоннай архітэктурай. Перад касцёлам я пабачыла магілу кс. Яна Семашкевіча з каменным крыжам і табліцай. Зайшла на плябанію, якая знаходзілася побач касцёла. Застала ксяндза, які паказаў мне гісторыю парафіі Мар’янова, напісаную Галенай Трызнай („Historia parafii Marianowo, dekanat koryciński, od założenia do roku 1987”). З яе спешна рабіла занатоўкі, бо ксёндз недзе збіраўся ехаць. Пасля размаўляла з людзьмі з Пшэслаўкі, дзе кс. Ян Семашкевіч жыў, пакуль не пабудавалі плябаніі. Усе з захапленнем расказвалі пра свайго святара, кажучы: „U nas potem takiego księdza już nie było i nie będzie, jak był ksiądz Jan”. Гісторыя парафіі мяне паваліла на калені. Ведаючы рэаліі паваеннай рэчаіснасці, мяне вельмі здзівіла, як можна было пабудаваць касцёл без згоды касцельных і свецкіх улад. Мае размоўцы казалі: „Pani, jaka władza ludowa? Tu nie było żadnej władzy — a we wsi sami cieśle, las dookoła, więc postawili kościół i tyle”. А пасля яго легалізавалі. 5 студзеня 1946 г. на аснове дэкрэта арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага кс. Ян Семашкевіч стаў рэктарам новай парафіі, а 2 лютага адправіў першае набажэнства. Касцёл Беззаганнага Сэрца Марыі быў высвенчаны 29 верасня 1946 г. кс. прэлатам Адамам Абрамовічам з беластоцкага касцёла св. Роха.

Сваю паездку апісала я ў артыкуле ў штомесячніку „Czasopis” (1996, nr 11, s. 26-27, „Zapomniany poeta”). Юрка Туронак даслаў здымкі, м.інш. з калекцыі Мар’яна Пецюкевіча. Гэты беларускі этнограф сябраваў з кс. Янам Семашкевічам яшчэ з 20-х гадоў XX ст. На адвароце здымка Янкі Быліны ёсць запіс: „Pamiatka ad ks. J. Siemaškiewiča M. Pieciukiewiču. Ławaryški 13 VII 25 h.”. Сярод копій здымкаў дасланых мне Юркам Туронкам былі таксама фатаграфіі М. Пецюкевіча з 1960 г., на якіх прадстаўлены касцёл і магіла кс. Яна Семашкевіча. Відаць, тады Мар’ян Пецюкевіч адведаў Мар’янова, ці гэта было выпадкова, ці мэтанакіравана — цяжка адназначна сказаць. Магчыма ведаў ён ад некага (магчыма ад самога ксяндза), што трапіў ён на Сакольшчыну. Мар’ян Пецюкевіч у 1949 г. папаў з Віленшчыны на ссылку, адкуль вярнуўся толькі ў сакавіку 1957 г. Кс. Яна Семашкевіча не было ўжо ў жывых ад года. А Мар’ян Пецюкевіч, працуючы ў Этнаграфічным музеі ў Торуні, даследаваў матэрыяльную культуру Сакольшчыны ды звязаўся з Беларускім грамадска-культурным таварыствам і рэдакцыяй „Нівы” ў Беластоку.



Злева: Пятро Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Фабіян Ярэміч, кс. Ян Семашкевіч, Янка Пазьняк

Свой артыкул з „Czasopisa” паслала я ў парафію Мар’янова. Потым — у 2003 г. — слядамі кс. Яна Семашкевіча праехалася д-р Гражына Харытанюк-Міхей. Успаміны пра яго апублікавала ў „Czasopisie” (2003, № 12, с. 28-31, *„Ksiądz, lekarz, budowniczy. Jan Siemaszkiewicz we wspomnieniach parafian*”). У тым жа 2003 г., у жніўні, на радзіме кс. Яна Семашкевіча ў Лакцянах адбылася канферэнцыя і мастацкі пленэр яму прысвечаныя з нагоды яго 120 угодкаў ад нараджэння. Густоўна і шыкоўна ўсё гэта сарганізавалі астравецкія краязнаўцы Ганна Чакур і Алесь Юркойць. Угодкі былі так урачыстыя і багатыя на падзеі, што і зараз, быццам гэта было ўчора, усё стаіць перад вачыма. Як там было, чытачы „Нівы” маглі даведацца з майго артыкула *Як Янку Быліну паміналі* („Ніва”, № 37, ад 14.09.2003 г., с. 8). У Клюшчанах перад касцёлам быў пастаўлены агромністы валун у гонар ксяндза і паэта, была імша, наведванне магіл бацькоў і родных Янкі Быліны, а на панадворку яго роднага дому ў Лакцянах чыталіся яго вершы, настаўніца з Варнянаў — Людміла Кухарэвіч спявала песні на словы паэта, мясцовыя жыхары ўспаміналі. Тады нехта сказаў, што папулярная песня „Баба Еўка, дзед Тамаш” зусім не народная, толькі напісаў яе Янка Быліна на аснове сапраўднага здарэння.

На працягу гадоў назбіралася даволі матэрыялаў, каб на іх аснове напісаць даследчыцкія тэксты пра дзейнасць кс. Янкі Семашкевіча на Беласточчыне, якія былі апублікаваныя ў 2007 г. у Мінску (*Ксёндз Ян Семашкевіч (Янка Быліна) на Беласточчыне (1933-1956)* у кнізе *Беларусь і беларусы ў прасторы і часе*, пад рэд. С. Запрудскага, А. Фядуты, З. Шыбекі, Мінск 2007, с. 426-433) і ў 2012 г. у Беластоку (*Działalność duszpasterska i literacka księdza Jana Siemaszkiewicza (Janki Byliny) na Białostocczyźnie w latach 1933-1956*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne” 2012, z. 37, s. 108-122). 17 снежня 2011 г. у Міхалове ў рамках „Міжкультурнага дыялогу: Беласток — Гродна, Міхалова — Ваўкавыск” я прадставіла творчасць кс. Яна Семашкевіча — пробашча каталіцкіх парафій у Ялоўцы і Міхалове і беларускага паэта, прэзентуючы невядомыя раней здымкі ксяндза з альбома Янкі Пазьняка, які захоўваецца ў яго ўнука Тамаша ў Варшаве. Адзін з іх вельмі цікавы — прадстаўляе кс. Яна Семашкевіча з беларускімі пасламі Сойма: з Пятром Мятлой, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Фабіянам Ярэмічам і з Янкам Пазьняком. Другія — гэта партрэты ксяндза, падараваныя Янку Пазьняку, які быў арганістам у касцёле ў Лаварышках на Віленшчыне, дзе да 1928 г. пробашчам быў Ян Семашкевіч. Дагэтуль яны нідзе не публікаваліся.

Яшчэ ўсё знаходзяцца новыя звесткі з жыцця і творчасці Янкі Быліны. Ужо агучыла я яго невядомы раней псеўданім „Янка Ялавец”. Зараз магу таксама сказаць з упэўненасцю, што „Janka Swojmir” ці „Janka Lokaj” („Biełarus” 1913-1914), ці „Янка Невук” („Да злучэння”) — гэта той жа кс. Ян Семашкевіч. Далей застаецца актуальным пытанне наконт славутага „Шэршня”. Ці мог ім быць кс. Ян Семашкевіч? Шмат што прамаўляе на яго карысць. У сувязі з дзейнасцю кс. Яна Семашкевіча на беларускай ніве і падзеямі на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд, таксама дзейнасці польскага падпольнага нацыяналістычнага руху ў наваколлі Міхалова, зараз зразумелым становіцца яго ахвота з’ехаць адтуль.

З новых знойдзеных вестак варта згадаць таксама, што падчас Першай сусветнай вайны кс. Ян Семашкевіч служыў у Вільні ў касцёле св. Стэфана (недалёка вакзала). Тады таксама супрацоўнічаў з газетай „Гоман”, публікуючы там свае вершы і байкі як Янка Быліна. Там у верасні 1916 г. заснаваў спажывецкае таварыства „Таварыш”, якое і ўзначаліў. Там таксама ў 1918 г. выдаў свой першы зборнік вершаў „На прызьбе”, дапоўнены і перавыдадзены Беларускім выдавецкім таварыствам у 1924 г. З 6 кастрычніка 1920 г. кс. Ян Семашкевіч служыў у Лаварышках, роднай парафіі Браніслава Тарашкевіча. У 1928 г. духоўныя ўлады за беларускую заангажаванасць адправілі яго ў Дукшты-Піярскія, адкуль у 1933 г. па ўласнай просьбе пераехаў у Янаў Сакольскага пав. (не ў Янаў-Падляшскі, як піша Уршуля Шубзда). Летам 1937 г. яго перавялі ў Ялоўку, а ўвосень 1939 г. у Міхалова. Увесь міжваенны час не парываў сувязі з беларускім нацыянальным рухам, асабліва з віленскімі беларускімі выданнямі, у якіх публікаваў свае творы. Я б не сказала, што творчая спадчына паэта „не вельмі вялікая”. Яна проста невядомая нашым людзям. Але яна ёсць, на шчасце захоўваецца ў бібліятэках, раскіданая ў беларускай перыёдыцы міжваеннага часу. Аж просіцца, каб сабраць яе пад адну вокладку, так як гэта зроблена са спадчынай Казіміра Сваяка, Адама Станкевіча ці Вінцука Адважнага. Можа „Ніва” магла б спакусіцца на выданне такога зборніка? Многае з яго творчасці з 1933 г. паўставала ў канцы на Беласточчыне. Дзякуючы яму таксама на Беласточчыну даходзілі беларускія віленскія выданні. Там у Вільні ў Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны выйшлі друкам яго трагікамедыя „Wybary staršyni” (1926), зборнік „Na pokuci. Bajki i roznyja wieršy” (1934), „Maciej” (193?). Перакладаў і пісаў рэлігійныя творы, выдадзеныя таксама ў Вільні: „Ružaniec da Najświaciejšaje Dziewy Maryi” (1929), „Pieśni žalby abo nabožnyja razważańni ab mukach i śmierci Zbaúcy Jezusa Chrysta” (1929), „Daroha kryža” (1930). Здаецца ўсё гэта не так і мала. А яшчэ розныя раскіданыя творы па „Гомане”, „Крыніцы”, „Беларускай Крыніцы”, „Авадні”, „Маланцы”, „Хрысьціянскай Думцы”, „Шляху Моладзі”, „Новай Дарозе”...

Дашукалася я таксама вестак, што за савецкім часам кс. Ян Семашкевіч з красавіка 1940 г. па чэрвень 1941 г. раз у месяц служыў у касцёле ў Гарадку, даязджаючы туды з Міхалова.

Кс. Ян Семашкевіч сапраўды постаць годная памяці беларусаў Беласточчыны, ды не толькі Беласточчыны, і напэўна заслужыў сабе помнік у Мар’янове, дзе закончыў свой жыццёвы шлях. Цікава, што хаця няма такой мясцовасці на карце, але такая назва ўпісаная ў пасведчанні аб смерці (odpis skrócony aktu zgonu), як месца пражывання ксяндза і яго смерці. У тым жа дакуменце ўпісана таксама дата нараджэння — 20 кастрычніка (не 30 красавіка!) 1883 г. у Лакцянах, Клюшчанскай парафіі, Свянцянскага павета. Гэтая дата таксама ўпісана ў дакументы ранейшага часу (пачатку 20-х гг.), якія захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільні і адносяцца да яго службы ў Лаварышках. Дарэчы, выразна ў іх падаецца беларуская нацыянальнасць кс. Яна Семашкевіча. І дата пасвячэння ў ксяндзы — 20 траўня 1907 г. у Вільні.

Калі ўжо ставіць помнік, дык — думаю — варта выпраўляць памылкі і знаёміцца з творчасцю Янкі Быліны, якой дарма шукаць у падручніках па беларускай мове на Беласточчыне. Яна арыгінальная перш за ўсё тым, што пісаная лацінкай, што для моваазнаўцаў павінна быць штуршком дзеля даследавання гісторыі беларускай мовы, таксама ў яе лацінскім варыянце.

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

## BAĆKAŬSZCZYNA

*„Zrzekam się kwiatów, chociaż wierszyk rzucę,*
*Uwieńczcie innych, nie będę miał żalu:*
*Dla jednej tylko swe piosenki nucę,*
*a tej jedynej nie ma na tym balu”.*
Or-Ot.

Chacia jana biedna i choć tak niaszczasna,
Napeŭnie druhoj ja takoj nie spatkaju, —
Jana mnie u myślach, jak zorańka jasna!
Jej tolki adnej swaje pieśni śpiawaju.

Ja z joj kożny wieczar hawaru ŭ sakrecie,
I ŭ śnie mnie mihnieć, jak aniołaczak z raju;
Duszu jej i ŭsio ja addaŭby na świecie.
Jej tolki adnej swaje pieśni śpiawaju!

Jana tak, jak z bajki zaklata kraleŭna,
Czy z sioha, czy z toha świeta? — nia znaju. —
Jaje da mahiły lubić budu wierna!
Jej tolki adnej swaje pieśni śpiawaju.

Jana choć za heta nia daść mnie niczoha,
Bo skarbaŭ nia maje ŭ swaim biednym kraju, —
Adna mnie da śmierci jość dana ad Boha!
Jej tolki adnej swaje pieśni śpiawaju.

*(Janka Bylina, „Na pryźbie”, Wilnia 1924, s. 33-34)*

## DAROHI NAŠAJE AJČYNY...

Darohi našaje ajčyny!
Kali, ŭ jakija wy časiny
Lahli izhibistaj pałoskaj,
Złučyli sioły, wiosku z wioskaj,
Cieraz bary i imšary,
Z jakoj, pytajusia, pary
Idziecie wy kudyś daloka,
Na’t prost praz rečki ŭ brod hłyboki?
Was chto wywodziŭ? Chto was mieryŭ,
Dla was chto siek bary siakieraj?
Chto pieršy jechaŭ śledam hetym?
Kudy, pa što, z jakoju metaj?
Ech, wy darožki wiekawyja,
Ci-ž wy byli uściaž krywyja?
Wy šmat čaho mahli-b skazać —
Na was tajnic lažyć piačać!
Adnu darožku tolki znaju —
Swajho žyćcia. Kaliś pucina
Wiała ad rodnej ajčyny.
Błukaŭsia doŭha ŭ swaim kraju...
Škada, škada mnie hetych let!
O, što-b ja daŭ, kab heny śled
Ŭ mazhoh zaciorci nazaŭsiody!

*J. Bylina. („Chryścijanskaja Dumka” 1937, nr 5, s. 4)*

## WIERA, NADZIEJA, MIŁAŚĆ

*
Ja wieruju ŭ Boha
U Trojcy światoha.
I wieruju ŭ tyja
Tajnicy światyja,
Što Boh nam adkryŭ
I sam nawučyŭ —
A Božaje słowa
Nieabmyłkowa:
Za praŭdu tych słoŭ
Žyćcio addać ja hatoŭ.

*
Nadziejaj sahrety,
Iz hetaha świetu
Ja ŭsio spadziajusia,
Što ŭ niebie znajdusia.
Twaja łaska, Panie,
Hrachi ŭsie dazwańnia
Z dušy maje zmyje
I tam, hdzie światyja,
Znajdusia ja moža.
Krapi mnie nadziejaj o, Boža.

*
Choć dobra nia znaju —
Ja Boha kachaju.
I z hetaj pryčyny
O, Boža Adziny!
Złym bliźnim, što maju,
Usim wybačaju.
Žaleju o, Boža!
Što hrecham ništožyŭ
Ja suwiaź z Taboju.
O, daj mnie lubić ŭsiej dušoju.

*J. Bylina. („Chryścijanskaja Dumka” 1937, nr 2, s. 2)*

# Пад Вялікдзень

**Была калісь такая казка: „Жылі-былі дзед ды бабка. Была ў іх курачка-рабка. Знесла курачка яечка, ды не абы-якое, а залатое. Дзед біў-біў — не разбіў. Баба біла-біла — не разбіла. Мышка бегла, хвосцікам махнула, яечка ўпала і разбілася. Дзед плача, баба плача, а курачка кудахча: — Не плач, дзед, не плач, баба: знясу вам яечка другое — простае, а не залатое”.**

Была калісь такая казка, была. Але ці яна сёння таксама яшчэ дыхае? Невядома. Бо ж калісь то і курачкі бегалі па кожным панадворку, і яечкі неслі, праўда — не залатыя, але простыя, звычайныя, без інфармацыйных пячатак, у якіх умовах тое яечка знесена. Тадышняя гаспадынька не стаўляла пячатак з, напрыклад, тройкай, інфармуючай, што яечка знесена недзе ў сене ці саломе для пазнейшага саматужнага выседжвання, калі ініцыятыўная курыца брала справу ў свае кіпцюры. Ці з двойкай — згубленае ў нейкай загуменнай крапіве, ці з адзінкай, знесенае ў пачэпленым у курніку кошыку з мяккай высцілкай. За дзень кожная курачка несла адно яечка ў нейкае гняздзечка. А што цяпер? Як цяпер выглядаюць нашы панадворкі, ці надалей бегаюць па іх курачкі і спяваюць-кукарэкаюць пеўні? Бывае, што дзе-нідзе гэты гаспадарскі спектакль, курыны абрад, яшчэ захаваўся, а дзе-нідзе то і зусім ужо звёўся. Завітаеш цяпер у вёску і не надта спадзяешся, што пачуеш кукарэканне пеўняў, кудахтанне ці сакатанне курыц, квактанне квактух, ціўканне куранят, іржанне коней, бляянне авечак, гагатанне гусей, сыканне гусакоў, рохканне ці квік свіней, піск мышэй, мяўканне катоў, мычанне ці рыканне кароў, балбатанне індыкоў, браханне ці скавытанне сабак... Ды і звычайны людскі голас таксама становіцца рарытэтам, не толькі па вёсках, але і ў гарадах. Заміж яго дабываюцца ў прастору зусім новыя гукавыя сігналы, штучна генераваныя тэхнічнай апаратурай, часта вялікай магутнасці, а шторaз радчэйшы натуральны людскі голас шторaз часцей праяўляецца крыкам баевікоў. Усё ж такі здаецца мне, што казка пра курачку-рабку астаецца несмяротнай, адно толькі змяняюцца ў ёй суб'екты і аб'екты, а сама сутнасць прадаўжае жыць у іншай іпастасі.

Бо ці ж патрэбная мышка з ейным хвосцікам, каб нешта скінуць і разбіць? І ці мусіць гэта быць акурат яечка? Ну, калісь то чалавек, малады чалавек, хадзіў спаць паралельна з совамі, але час змяніўся і цяпер той жа самы, толькі менш малады чалавек адпачывае паралельна з курамі. І ўстае яшчэ да першых пеўняў, з боязі, што мазалі на баках ад ляжання вырастуць. Сам як той певень з біялагічным гадзіннікам — устае і іншым спаць не дае, як той сабака садавода. Або як тая мышка, пры нагодзе скідаючы нейкую каштоўнасць, мо нават даражэйшую за залатое яечка.

Вось так на досвітку звалокся са сну і я. А ўзімку-напрадвесні яшчэ цёмна. Ну і зачэпішся за нейкі далікатны прадмет, з якім трэба абыходзіцца як з яйкам — рукою, бо ж рук у кішэню не схаваеш, бо і кішэняў у спальным касцюме няма. Каб у тыя кішэні чаго не накласці, гарошын якіх, быццам у казцы Андэрсена пра далікатную прынцэсу, блакітнакроўную. Бо і навошта тыя гарошыны, калі кожны чалавек, калі яму шчыра прыглянуцца — блакітнакроўны. Якім жа колерам свецяцца яго вены, паўнакроўныя? Блакітным! Толькі чамусьці той чалавек, асабліва жаночага полу, тую сваю блакітнакроўнасць стараецца прыхаваць, быццам у свет візажу ўварваліся Ленін са Сталіным са сваімі пралетарскімі запаведзямі. І найбольш модныя панюсі, заміж паказваць сябе графінямі, баранесамі ці прынцэсамі, ружовяць свае ўсмешкі ўсялякімі варыяцыямі пралетарскага колеру...

І вось так звалокся я спрасонку і замахаў упоцемкі рукамі быццам тая казачная мышка хвосцікам. Бо ж чалавек не лятучая мыш, што помніць усю сваю прастору, толькі ўсё мусіць мацаць, асабліва ўначы, махаючы менш ці больш размашыста рукамі. Ну і зачапіў, і скінуў. Не яечка ж, вядома, бо цяпер усе дзяды і бабы трымаюць яечкі

Фота Адама Паўлоўскага



ў халадзільніку або ў адмысловых кардонках, з якіх цяжка тое яечка выцягнуць, так цяжка, што тое яечка часам нават не ў сілах утрымацца ў руках і шлёпае на падлогу, быццам казачнае залатое яно было. Зачапіўся я за флакон з адэкалонам. А ён жа шкляны. Здарылася мне такое і флакон, як тое казачнае яйка, зваліўся на падлогу і разбіўся. А далей ужо падзея набрала амаль шэкспіраўскага драматызму. Бо яйка то шлёпне адносна ціханька, яго вытрэш і канцы ў ваду. Так, мабыць, было і ў казцы, дзе дзед з бабай на мышку не пагневаліся; паставіліся да яе спагадліва, бо ж несумненна ведалі, што мышка зачапіла тое яечка зусім выпадкова, што і ёй, як і чалавеку, здараюцца нейкія няўдачы.

Толькі з адэкалонам справа намнога сур'ёзнейшая. Значыць з флаконам, бо ён са шкла. І разбіваецца ён крыху на падабенства баявой гранаты. Крыху грукату, але да яго мноства асколкаў, шмат з іх дробненькіх і да таго ж небяспечна вострых. Ды і каштоўнае змесціва разальецца. А яго вельмі шкада. Бо ж чалавек, калі яшчэ начаваўся паралельна з совамі, насіў з сабою нейкую долю асабістага фларыстычнага паху, а з гадамі, прыняўшы казачныя званні дзеда ці бабы, той асабісты пах стаў, каб неяк кепска не сказаць, такім больш спелым, больш фаўністычным. І чалавек з часам стае перад неабходнасцю дадаваць сабе вонкавыя фларыстычныя пахі, гэтак жа як лякарствы ў дыету. І паводле майго надта суб'ектыўнага меркавання, адэкалон, гэтак жа як і лякарствы, павінен быць адпаведнымі ўрадавымі абяцаннямі прапісваны сеніёрам, значыць бабам і дзядам, бясплатна. Бо ён ім неабходны як магній, калій, кальцый ці ўсялякія іншыя вынаходствы фармацэўтычнай прамысловасці ці гаючай батанікі. Чалавек жа падобны на нашу славутую Пушчу: яго ўвесь час з'ядаюць нейкія вірусы ці бактэрыі, як Пушчу караеды. Розніца толькі ў тым, што Пушчу, паводле яе найрупліўшых абаронцаў, трэба пакінуць на волю лёсу, калі чалавека можна, а нават трэба ўвесь час шпрыцаваць нейкімі мацуючымі хімікатамі ды праводзіць санітарныя расчысткі, як гэта здараецца, напрыклад, з апендыксам ці жоўцевым пузыром, так як мае гэта зараз быць з пушчанскай лясной пракараедзенай драўніннай масай. І тыя вірусы ці бактэрыі асабліва каварныя, бо ж з'ядаюць менавіта фларыстычныя кампаненты чалавечага паху, пакідаючы па сабе элементы фаўністычныя. Быццам метрыку, інфармуючую наваколле пра агульную біяграфію яе носьбіта.

Вось тыя караеды — калі б славуты найшчырэйшы прыродаахоўнік Ной не забраў іх, значыць караедаў, у свой каўчэг і не прызямліў на Арараце, то ж не наступалі б яны адтуль на Пушчу, як якая саранча, і расла б у ёй самая якасная драўніна, спакойненька, ніякімі шкоднікамі не трывожаная, на радасць або драўніннай прамысловасці, або спажыўцам кіслароду. А калі б яшчэ не забраў курэй і мышэй, то ж не было б і знакамітага казачнага сюжэта. А калі б яшчэ не забраў вірусаў і бактэрый...

Зваліў я той флакон яшчэ перад досвіткам, і то не бясшумна. Да таго ўсяго трэба было ўключыць святло, каб прыбраць шкляныя асколкі, якія размашыста разляцеліся па падлозе. І ўсё гэта разбудзіла маю асабістую бабу. І яна, без ніякай спагады, усчала мне такое сапранабасовішча, якога хіба яшчэ не бывала не толькі на тутэйшых сямейных і эстрадных сцэнах ці на вясковых фаўністычных панадворках, але хіба такога не было нават на Ноевым каўчэзе. І ніякага Арарату, за якім можна было б схавацца ад акустычнага патопу, у наваколлі асабістай бабы не знойдзеш. Тут былі не толькі пералічаныя раней разнавіднасці панадвокавага дэцыбельнага багацця, але, як мне здалося, і ерыхонскія трубы з усялякімі да іх вуферамі.

Тут мог бы хто падумаць: а чаго ж трымацца такой сапраністай бабы? Ці не разглянуцца за нейкай іншай зямлёй абяцанай, з малаком і мёдам, і ціхенькай быццам Рабінзонаў востраў. І сігануць туды ў нейкае бежанства — хіба ж нейкі атавізм астаўся ад нашых продкаў. Але гэта не так простая справа, асабліва ж дзеду з ягоным сеніёрскім араматам. Бо перад бабамі і дзядамі не толькі абяцаныя фармацэўтычныя падмацоўкі, але ж таксама і пакуль што цалкам рэальныя медалі за паўвякоўе. Як жа можна змахнуць сабе з-пад носа той медаль? Як мышка хвосцікам? Або падставіць пад медаль перыгей плячэй? Калі медаль ад самога Прэзідэнта? І то вось-вось. Трымацца трэба, бо ж можа і тут справа памяняцца. Цяпер усе стараюцца дабівацца поспехаў навалам абяцаючы ўсялякія не толькі добрыя, але нават яшчэ лепшыя змены. І ці часам нехта не прыдумае, можа нават сам Прэзідэнт, каб той медаль прызнаваць за іншую колькасць гадоў, як гэта зараз маецца з пенсійным цэнзам, каб тую лічбу таксама змяніць. Пакуль медаль у полі зроку, трэба яго, як пуцяводнай зоркі, трымацца. Ён жа ж ад самога Прэзідэнта, гэта не хаханькі-хіханькі. Мусова сядзець ціха і не шукаць нейкага адлеглага Арарату. А то ж можа аказацца, што той медаль за шматгадовае плаванне ў сямейным каўчэзе аддаліўся ў далёкую перспектыву ў штормавым цяпер жыццёвым моры, або ўжо яго тэрмін астаўся далёка ззаду. Трэба пільна навігаваць каб не сесці на нейкім рыфе, заміж на медаленосным Арараце.

Можна было б шукаць такога выхаду, які здарыўся ў казцы, значыць кампенсаваць той флакон так, як курыца разбітае мышкай яечка. Толькі курыца ў той казцы несла яечкі бясплатна, нават залатыя, не патрабуючы за іх залатовак. А ў нашай зусім не казачнай рэальнасці ўсё жыццё круціцца вакол франкаў, залатовак ці іншых еўрасаюзных датацый і аблігацый, як наша Зямелька вакол залацістага Сонейка. Гэта паводле Каперніка, бо паводле іншых меркаванняў залацістае Сонейка верціцца вакол нашай Прахапоснай: там, у касмалогіі, усё залежыць ад прынятага пункту гледжання. А ў жыцці, як не круці — ад усялякіх капеек, а можа і капейкі ад яго. І вось тая кампенсацыя флакона ў дасюлешніх умовах крыху залатоўкаёмкая. Да таго ж людзі так распусціліся, што цяжка разгадаць іхнія ўсялякія, як гэта цяпер гаворыцца, прэферэнцыі. Напрыклад — якога радаводу мае быць той адэкалон, якой фірмы, якога фларыстычнага гатунку. Ці мае ён быць з лавандавай метрыкай, ці з ландышавай, ці з кіпрскай бергамотна-сандальна-ладанавай, ці яшчэ нейкай іншай. Ну, апарожніш кішэні з залатовак, каб прынесці дахаты той флакон, а ён акажацца не той, і тады можа здарыцца чарговы Ноеў каўчэгаканцэрт. А калі б гэтыя дары чалавечага вынаходства былі ў сілу ўладных абяцанняў беззалатовачныя, то прынёс бы чалавек дахаты мяшок розных флаконаў і няхай бы тая асабістая пані... заводзіла чарговы свой рэчытатыў.

Можа я занадта зачэпіста думаю, можа ўсё-ткі справы з бясплатнымі адэкалонамі выглядалі б намнога больш гаючымі, суцішальнымі. Вікіпедыя: „В СССР одеколон марки „Шипр” выпускался фабрикой „Новая заря” и был копией марки Chypre Coty. По ГОСТу 1971 года „Шипр” входил в группу одеколонов класса „Экстра” с содержанием массовой доли этилового спирта не менее 70%. По этой причине часто употреблялся алкоголиками в качестве крепкого напитка”. Даведнік не падае, як той „Шыпр”, з кіпрскай бергамотна-сандальна-ладанавай метрыкай, размяркоўваўся: ці паўнацэнна, ці з нейкімі льготамі, ці мо нават зусім бясплатна. Як лякарства хворым. А той жа СССР ад нас не за гарамі, ён жа як тут, у нашых душах. Колькі ж народу за ім зараз цёпладумна тужыць. Цалкам магчыма, што менавіта беручы пад увагу заклапочанасць тамашняга тадышняга дзяржаўнага кіраўніцтва забеспячэннем у найбольш неабходныя тавары — у тым ліку і вадкасцямі „в качестве крепкого напитка” — найшырэйшых кругоў насельніцтва. Мог бы хто думаць, што там дбалі толькі пра працоўных стаханаўцаў ці пра маскоўскіх правадыроў, але ж прыклад „Шыпра” паказвае, што цэлае тадышняе насельніцтва карысталася эгалітарнай падтрымкай карпатлівай савецкай улады. Каб гэтак жа і цяперашняя наша...

Пад Вялікдзень. Каб яечка. І да яечка. І бабам, і дзядам...

(івар)

# Многія леты Надзі Артымовіч!

Літаратурная творчасць Надзеі Артымовіч для майго пакалення была доказам нармальнасці. Вядома, мова тут не пра шэрую штодзённасць і практычныя мары. Ідзе пра дачыненні да экзістэнцыялізму, моднага ў 70-я гады XX стагоддзя. Карацей кажучы, паэтэса з беларускім сном пад павекай даследуе сэнс і трагізм адзінкі, піша як паэты-аднадумцы ў Польшчы і Еўропе. Тагачасны беларускі чытач адчувае гонар. Ён не патрабуе ідэальных радкоў, дурнога суцяшэння. Ён, хоць цьмяна, адчувае ўжо новы далягляд з ператусоўкай каштоўнасцей. Ён чытае, верыць...

Надзея Артымовіч ужо ў сямідзясятыя гады бачыць ператусоўку каштоўнасцей на падляшскім небе. Наша паміранне пры песнях і скоках. Дэградацыю і праекты, якія не праектуюць. Грамадства ў стадыі гіпераэгізму. Пустыя словы і штучныя захапленні. І абыякавасць да беларускага жывога слова і яго творцаў.

Таму калі беларускі паэт святкуе 70-годдзе — гэта свята, якому трэба прыдумаць новае, асобнае слова. Яно павінна мець усярэдзіне падзяку, што так доўга вытрымаў з намі...

У пятніцу, 11 сакавіка, рэдакцыя «Нівы» паехала ў Бельск, каб праспяваць Надзеі Артымовіч «Многія леты!». Не, мы не спазніліся — мы проста так дамовіліся. Юбілей і ружы, як кажуць, актуальныя цэлы год.

Ганна КАНДРАЦЮК



Пчалярства ў беларусаў заўсёды лічылася шанаваным заняткам. Пчаляра на вёсцы можна ў нечым параўнаць з цяперашнімі ІТ-шнікамі, то-бок камп'ютаршчыкамі-праграмістамі, якія не кожнаму зразумелай працай ствараюць нешта вельмі важнае ў жыцці. Так і пчаляры — нешта там з пчоламі ціха робяць, знаходзячы ў іх паразуменне, а потым атрымліваюць вельмі карысны прадукт — мёд, а акрамя таго — прапаліс, пяргу, матачнае малако і іншыя дзіўныя і загадкавыя па сваім паходжанні рэчывы, якія ж адначасова з'яўляюцца вельмі карыснымі.

Напрыканцы зімы ў сусветным павуцінні з'явіўся беларускамоўны сайт, цалкам прысвечаны пчалярам і іх пчолам. Ён носіць назву «Добрыя пчолы» і размешчаны ў інтэрнэце па адрасе **http://pcholy.by.** Каляровая гама сайта стварае ўражанне знаходжання на вёсцы спякотным летам, дзе горача свеціць сонца і гудуць пчолы. Менавіта такім чынам уплываюць на свядомасць здымкі з жоўтымі палямі, мёдам, сотамі і сонцам.

«Рады вітаць Вас, дарагія сябры, на старонках гэтага праекту! Пра што буду пісаць? Пра самы любімы занятак на свеце — пра пчалярства!» — піша на старонцы «Пра пчалярства» невядомы стваральнік і ўладальнік «Добрых пчол». Паводле яго, пчалярства — гэта не проста захапленне, а хвароба з элементамі лёгкага «вар'яцтва».

Невядомы аўтар не толькі публікуе артыкулы і фотаздымкі пра пчол і мёд. Ён таксама па-філасофску падыходзіць да пчалінага ладу жыцця. «Унутры пчалінага грамадства няма забойстваў, няма дармаедаў, у доме цёпла і чыста, удосталь ежы. У іх няма асабістых жаданняў, усё па-бýйному, усё глабальна. У іх няма сяброўства, і няма здрады. Няма дробных жаданняў і ніякіх прыхільнасцяў. А значыць няма страт. На пчолах можна бясконца правяраць закон натуральнага адбору. Калі член іх грамадства не прыносіць карысці, яны яго ў вулей не пусцяць. Не падораць ежу і прытулак за чужы кошт. Кожны член калектыву — патрэбны вінцік у вялікім механізме, але пры гэтым унікальных, незаменных членаў грамадства няма. Працоўныя пчолы самі з нараджэння ведаюць усе свае абавязкі, і кіраваць імі ўвогуле не трэба. Можа быць, пчаліная сям'я — гэта мадэль ідэальнага паспяховага грамадства?» — спрабуе аўтар асцярожна, але зусім не адэкватна, параўнаць пчол і людзей.

У практычным прымяненні сайт можа выклікаць зацікаўленне ў тых, хто пачынае займацца пчалярскай справай. Адпаведныя артыкулы месяцца ў рубрыцы «Пчолы і пчолагадоўля». Пакуль іх там не надта многа, што зразумела — сайт з'явіўся не так даўно. Таксама практычна-пазнавальнае прызначэнне мае рубрыка «Прадукты пчалярства», дзе распавядаецца пра вышэйзгаданыя мёд, прапаліс, пяргу, матачнае малако, а таксама апылок, воск, падмор, забрус і пчаліны яд. А рубрыка «Рэцэпты» змяшчае інфармацыю пра магчымасць лячыць розныя хваробы, у першую чаргу прастудныя, з дапамогай мёду і іншых прадуктаў пчолагадоўлі.

Расповед пра жыццё пчол, пачаты ў першай рубрыцы, працягваецца на старонцы «Цікавосткі». Таксама там можна даведацца пра этымалогію слова «пчала», абарончую тактыку японскіх меданосных пчол. Прыемна, што практычна ўсе артыкулы аздоблены фотаздымкамі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

# Вяртаў Беларусі імёны герояў

# 85 гадоў з дня нараджэння Генадзя Кісялёва

Выдатны беларускі гісторык літаратуразнавец, пісьменнік і археограф Генадзь Кісялёў нарадзіўся 19 сакавіка 1931 г. у падмаскоўным горадзе Каломна. Што цікава, ягоны бацька быў спецслужбоўцам, а маці паходзіла з Віцебшчыны. З Падмаскоўя сям'я пераехала ў Беларусь. Вучыўся Генадзь у сярэдняй школе ў Віцебску, якую скончыў у 1948 г. Ужо ў той час захапіўся гісторыяй. У 1953 г. скончыў Маскоўскі гістарычна-архіўны інстытут. Далей працаваў у архіўных установах Літоўскай ССР. У 1956-1959 гг. вучыўся ў аспірантуры пры тым жа Маскоўскім гістарычна-архіўным інстытуце. Далей цягам 1960-1971 гг. быў навуковым супрацоўнікам Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР. У 1971 г. пераехаў у Беларусь і стаў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Быў сябрам Саюза пісьменнікаў. Стварыў сям'ю, меў дзвюх дачок.

У друку Генадзь Кісялёў дэбютаваў у 1958 г. Аўтар зборнікаў гістарычна-літаратурных нарысаў „Сейбіты вечнага" (1963), „З думай пра Беларусь" (1966), „Героі і музы" (1982), даследаванняў „Загадка беларускай «Энеіды»" (1971), „Пошукі імя" (1978), „Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" (1988), літаратуразнаўчай дылогіі „Разыскивается классик..." (1989), гістарычных нарысаў „Паплечнік Каліноўскага" (1976), „На пераломе двэюх эпох: Паўстанне 1863 года на Міншчыне" (1990). Аўтар зборнікаў гістарычна-літаратурных матэрыялаў „Пачынальнікі" (1977), „Пуцявінамі Янкі Купалы" (1981), „З жыццяпісу Якуба Коласа" (1982), „Шляхам гадоў" (1990). Адзін са складальнікаў зборнікаў дакументаў „Рэвалюцыйны ўздым у Літве і Беларусі 1861-1862 гг." (1964), „Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863-1864" (1965).

Кісялёў даследаваў беларускую літаратуру і нацыянальны рух XIX стагоддзя, жыццё і творчасць Кастуся Каліноўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Паўла Шпілеўскага, Якуба Коласа, Янкі Купалы. Менавіта ён дакладна ўстанавіў аўтарства ўнікальных твораў нашай літаратуры — паэм „Энеіда навыварат" і „Тарас на Парнасе". Таксама працаваў над скарыназнаўчымі тэмамі.

Па словах Уладзіміра Арлова „са старонак Кісялёва да нас прыходзілі рэальныя героі — з адрасамі, імёнамі, мянушкамі. Іх партрэты хацелася павесіць над сваім ложкам у інтэрнацкім пакоі". Архівіст і гісторык Генадзь Кісялёў рашуча бараніў імя нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, менавіта найперш дзякуючы яго высілкам у серыі „Беларускага кнігазбору" у 1999 г. выйшаў томік „За нашую вольнасць", прысвечаны кіраўніку вызвольнага паўстання. Дзякуючы навукоўцу беларусам вярнуліся імёны дзясяткаў іншых выдатных асоб з часу далёкага 1863 года. Такога знаўцы лёсаў гісторыі Беларусі эпохі паўстання ў Беларусі не было ні да, ні пасля Кісялёва.

Памёр Генадзь Кісялёў 14 лістапада 2008 г. у Менску пасля цяжкай хваробы. Пахаваны на сталічных Кальварыйскіх могілках. Ужо пасля смерці даследчыка з друку выйшла кніжка яго твораў „Смак беларушчыны".

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Ушанавалі Дзень жанчын

8 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе праходзіла святочная сустрэча з нагоды Міжнароднага дня жанчын. Арганізатарамі мерапрыемства былі Гмінны асяродак культуры і Раённае аддзяленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе. Запрашэнні на імпрэзу былі змешчаны на сайце ГАК і адмысловых абвестках у паасобных салэцтвах. У сустрэчы, якая пачалася ў 13 гадзін, удзельнічалі войт гміны Міхал Врублеўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык, настаяцель Чаромхаўскага прыхода а. Юры Пліс, старшыня аддзялення ПСПіІ Мікалай Янчук ды шырокае кола жанчын (з суправаджальнымі асобамі). У афіцыйнай частцы пажаданні перадалі войт Міхал Врублеўскі і старшыня Мікалай Янчук. Затым войт уручыў букеты кветак прадстаўніцам гурткоў пенсіянераў — Вользе Раманчук з Кузавы, Надзеі Унучка з Чаромхі-Сяла і Галіне Андрасюк з Чаромхі-Станцыі. У мастацкай частцы выступілі дзеткі з ПШ у Чаромсе, гурт „Гілочка" і маладзёжная музычная група духавых інструментаў пад кіраўніцтвам капельмайстра Мікалая Гарадкевіча. Застолле праходзіла пры багата застаўленых сталах, а пра пачастунак паклапаціліся арганізатары ды самі ўдзельнікі сустрэчы, узяўшы з сабою „ўласны кошычак" з дамашнімі стравамі ды напіткамі. Мастацкая частка доўжылася больш за гадзіну. Выконваліся вершы і песні, прысвечаныя жанчынам, гучалі папулярныя эстрадныя песні. Музычны бок мерапрыемства (музыку дыска-пола ў выкананні польскіх, беларускіх і ўкраінскіх гуртоў) падрыхтаваў і затым наглядаў за ходам танцавальнай часткі Здзіслаў Закшэўскі. Гітом забавы аказаўся „Паланез Агінскага", пад гукі якога танцавала шмат пар. Мерапрыемства праходзіла ў сардэчнай, свойскай атмасферы. Гэта заслуга як арганізатараў, так і ўдзельнікаў сустрэчы.

## Віншую Юбіляра!

У 8 нумары «Нівы» ад 21 лютага друкаваўся тэкст Міхася Куптэля «Юбілей 90-годдзя Мацея Канапацкага». З Мацеем Канапацкім я пазнаёміўся ў пачатках свайго супрацоўніцтва з «Нівай» у палове 1958 года. Працаваў ён тады штатным журналістам. Невялікага росту, худзенькі, з прычасанымі набок чорнымі валасамі, заўжды, калі я заходзіў у ягоны кабінет, вітаў вясёлай усмешкай. Гэтая ўсмешка ніколі не знікала з твару гэтага жыццярадаснага чалавека. З першых дзён знаёмства прыпалі мы сабе да сэрца, сталі сябрамі па душы. Ды штосьці іншае яшчэ нас аб'ядноўвала — яго імя Мацей Канапацкі і мой ніўскі псеўданім «Мацейка», якім я падпісваў свае допісы. Прыпамінаю адно гумарыстычнае здарэнне. Калі я чарговы раз наведаў рэдакцыю, дык Мацей з-за парога прывітаў мяне словамі:

— Твой, Валодзька, ганарар мне прыпісалі...

І расказаў як гэта сталася.

— У час расцэнкі тэкстаў галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі глянуў на подпіс «Мацейка» і, не задумваючыся, ганарар запісаў у рубрыку «Мацей Канапацкі». Такім чынам я пабагацеў на твой ганарар. Калі я памылку выявіў шэфу, дык вынікла куча смеху, — завяршыў свой гумарыстычны аповед старэйшы калега.

Я неадночы ўспамінаў сімпатычнага беластоцкага татарына. Калі пішу гэты тэкст, дык перад вачыма рысуецца жывое аблічча вясёлага, спагадлівага і сардэчнага прыяцеля. Такі вобраз захаваецца ў мяне да апошніх дзён майго жыцця.

З выпадку 90-гадовага юбілею, шлю Мацею Канапацкаму самыя лепшыя віншаванні і жадаю моцнага-моцнага здароўя!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Пенсіянеры ў дзеянні

Гурток № 12 Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў (ПСПіІ) у Беластоку налічвае больш за сто чалавек і надалей прыцягвае новых членаў, нават з-па-за свайго раёна. Прычынай гэтаму з'яўляецца актыўнасць управы гуртка ў асобах Зінаіды Алексяйчук (старшыні), Галіны Сцепанюк, Васіля Шымчука, Лявона Сталёнчыка і Ніны Вакулы.

Дзякуючы ініцыятыве і актыўнасці ўправы ў 2015 годзе рэгулярна кожны месяц адбываліся арганізацыйныя сходы членаў гуртка і культурныя мерапрыемствы, такія як дні жанчын, мацi, сеніёра, „анджэйкі", куцця з аплаткай — у апошняй сустрэчы прынялі ўдзел каталіцкі і праваслаўны святары. Пенсіянеры гуртка № 12 ездзілі на краязнаўчыя экскурсіі з Багонікі, Гайнаўку, Гарадок і Крушыняны, а таксама ў Руцянэ-Ніду і Мікалайкі ды плавалі па азёрах на судне, выязджалі на прыроду пячы бульбу.

Дзейнасць управы гуртка не абмяжоўвалася толькі да арганізацыйных і культурных спраў. У паразуменні з Акруговай управай ПСПіІ ў Беластоку двойчы ўсе члены гуртка атрымалі яблыкі і агародніну.

За заслугі перад пенсіянерскім асяроддзем Акруговая ўправа ПСПіІ залатым знакам узнагародзіла Зінаіду Алексяйчук і Ніну Вакулу, а ганаровымі граматамі — Васіля Шымчука і Валянціну Івановіч.

Праца ва ўправе гуртка складаная. Членам управы прыходзіцца разлічваць толькі на сябе. Кожнае мерапрыемства патрабуе старанняў, працы і часу, часта коштам сям'і, прытым трэба яго так планаваць, каб змесціцца ў невялікіх коштах. Часам на культурных мерапрыемствах падыгрывае бясплатна гурт „Кошыкі".

Нярaз адзываюцца людзі, якім тое ці і іншае не падабаецца. Не ведаю ад чаго тое бярэцца: ці ад прыроджанай нянавісці, ці ад іншых прычын. Але я ад імя задаволеных членаў выказваю ўсёй управе гуртка сардэчную падзяку і заклікаю: не зважайце на ныцікаў, дзейнічайце так, як да гэтай пары!

**Канстанцін МАСАЛЬСКІ**



## ЗАПРАШЭННЕ

Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**"Пагаворым пра тое, чаму Беларусь захапілі марсіяне"**

і сустрэчу з паэтам, празаікам і выдаўцом **Алесем АРКУШАМ**

17.03.2016 (пятніца) 17.00

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування нашай рэдакцыйнай сяброўцы **Галіне Рамашка** і Яе сям'і з прычыны напаткаўшага Яе гора – смерці маці.

**рэдакцыя Нівы**

## Адгаданка

1. Ліда, Сафія або Мсціслаў, 2. навучэнец курсаў, 3. выданне рэкламнага характару ў выглядзе невялікай ілюстраванай кніжкі, 4. часціна мовы, якая абазначае дзеянне, 5. падраздзяленне батальёна, 6. раздзел фізікі, які вывучае свойствы лінзаў і прызмаў, 7. лодка з ветразем, 8. адзін з некалькіх паказаў фільма ў кінатэатры, 9. патомак бацькоў белай і чырвонай рас, 10. барабан.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | | 2 |
| | | | | | 3 | | 4 | | | |
| 5 | | 6 | | | 7 | | | | | |
| | | | | | | | | | | |
| | | | 8 | 9 | | | | | 10 | |

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Аса, дзед, дзеці, жупан, заяц, лама, паяц, рай, цэх, цюльпан, чаша.

Рашэнне: **Хаціна дзе смяюцца, даражэйшая за палац дзе плачуць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 20.03 — 26.03

**(22.03. — 20.04.)** Пачнеш ажыццяўляць усе карысныя змены, якія плануеш — прафесійныя, фінансавыя, кампанейскія... Можаш нават папрабаваць змяніць свой імідж. У пачуццях ад далікатных ачараванняў да шалу, але не пераскочыш 25.03., калі, напрыклад, на дарозе да вянца паявяцца перашкоды. Усё ж кончыцца хепі-эндам. Не адкладвай аперацыі — усё пойдзе добра.

**(21.04. — 21.05.)** Рэалізуй свае мары. Твая прафесійная сітуацыя радыкальна адменіцца. Усё будзе добра, пакуль цябе блакуе моцны стрэс. А калі ты нядаўна на новай працы, памятай, што за табой назіраюць; калі пачуеш крытычныя заўвагі, не трактуй іх як вымову, а як інструкцыі і каштоўныя падказкі. Калі твая працавітасць не дацэньваецца, разглянься за іншым заняткам. Бык-сінгл — паддайся настроям, не пашкадуеш.

**(22.05. — 22.06.)** Сонца распраменіць цябе і свет вакол цябе. Але будзь пільным, не адлучайся ад рэальнасці! На працы не аддавай ініцыятывы камусь, хто здаецца быць скромным ценем цябе — гэта хітры ігрок, вылавіць усе твае слабейшыя бакі. Калі стараешся здабыць новую працу, не адкідвай прапановы, якая здасца табе спачатку не падыходзячай для тваіх ведаў ці кваліфікацый — пасля абучэнняў станеш там зоркай. І нават калі трэба будзе даязджаць на работу, будзе ўдала і карысна.

**(23.06. — 23.07.)** 20-21.03. зачаруеш каго толькі захочаш! Зоркі будуць старацца цябе разварушыць. Не хавайся па кутках! Дагаворышся з Блізнюком, а Казярог выратуе цябе з нялёгкай сітуацыі. Абавязкова зайграй у латарэю! Можаш здаць правы на машыну і праехацца куды-небудзь, нават у сакрэтнае падарожжа (найлепш 21.03.). Цалкавітая прытомнасць розуму вернецца табе 23.03.; займіся новым праектам, задачай, выступі ў ролі эксперта, можа будзеш сведкай. Энергію выкарыстай у больш творчых заданнях.

**(24.07. — 23.08.)** Што дзіўнае, можа табе захацецца пабыць у цяні, але будзеш традыцыйна мець усё на воку і ў сваіх руках. Магчымая вялікая сямейная ўрачыстасць. Калі будзеш прыбіраць дома, не выкідвай важных папак, сямейных памятак. Улада дзейнічае на цябе як афрадызіяк. Можаш дабіцца кіраўнічай пасады, але вельмі пільнуйся межаў, якія схочаш вызначыць.

**(24.08. — 23.09.)** Калі будзеш арганізаваць час і справы ў сям'і, не рабі гэтага адзін, парайся асабліва ў старэйшых сямейнікаў. За сталом лепш абмінай палітычныя тэмы. Будзеш адчуваць допінг зорак, схочаш ззяць у кампаніі, паказацца на рабоце, здабыць кубак. Могуць раптам паявіцца неспадзяваныя грошы. 25.03. можа закрасціся хаос, дзень можа быць поўным напружання, хаця без драмаў.

**(24.09. — 23.10.)** З усім справішся прыпяваючы, толькі што трэба будзе ўсё прыспешыць. А камфортна адчуеш сябе, калі раптам амаль як з неба спадуць большыя грошы. Калі трэба зачыніць стары раздзел, зрабі гэта. Вакол цябе разумныя і сардэчныя людзі, якія табе памогуць. Сінглу на дарозе стане вельмі цікавая асоба.

**(24.10. — 22.11.)** Дзейнічаеш з імпэтамі мэтанакіравана. Калі на працы ідзе добра і добра табе плацяць, нічога не зменіцца. Але калі будзеш спрачацца, можа гэта кончыцца нават і ў судзе; не намаўляй калег, каб сведчылі — будуць баяцца страціць працу. 20.03. сустрэнеш каханне сваіх мараў! Або пагодзішся з партнёрам і будзе боска! На сямейнай імпрэзе можаш пазнаёміцца з фантастычнай асобай. 25.03. прытармазі, важныя справы афармляй спакойна.

**(23.11. — 22.12.)** Мілая вестка пра тое, што твае сваякі, дарабіўшыся за мяжой, вернуцца і сарганізуюць сямейную фірму і будуць разлічваць на тваю падтрымку. Можаш закахацца з першага пагляду! Калі маеш добрую пазіцыю ў сваёй фірме, няхай ніхто цябе не зловіць на абяцанні залатых гор. Не перайmайся, калі ты бацька сёлетняга «матурыста», не гані яго да работы. 25.03. калі Сатурн пачне ісці назад, прытармазі і ты.

**(23.12. — 20.01.)** Схочацца вырвацца з тлуму. Будзь цярплівым у складанай сітуацыі, калі нават адчуеш бездапаможнасць — зоркі памогуць. Цяпер адпусціць тое што трымала за горла, усё будзе высветлена. Не бегай у бок, калі ты ў пастаяннай пары. Вазьмі водпуск хаця б на два дні. 25.03. рэтраградацыя Сатурна паможа табе заблакаваць крыўдзячыя цябе чыноўніцкія працэдуры.

**(21.01. — 19.02.)** Назбіраецца крыху турботных штодзённых спраў, патрабуючых хуткага афармлення. Выканай сямейную місію — вынік будзе імпазантны. Скарпіён любіць цябе больш, чым ты думаеш.

**(20.02. — 21.03.)** Не раскідвайся грашыма — страціўшы над імі кантроль, можаш таксама страціць крыніцу прыбыткаў! Не выкідвай нічога, што яшчэ можна паладзіць. Захавай вялікую асцярожнасць пры знаёмствах — будуць да цябе ліпнуць падазроныя людзі — аднаму працягнеш руку, а куча іншых пацягне цябе на дно! Але месяц можа кончыцца з прытупам — будзеш пераможцам! Трэніруй пазітыўнае мышленне, горшы настрой не папраўляй парашкамі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Кіраўнік Беластоцкага кола Браніслаў Шварцэ (з гісторыі паўстання 1863-1864 гг.)

У той час, калі ў Вільні толькі ішло гартаванне рэвалюцыйнай арганізацыі, у Беластоку праца ўжо актыўна кіпела. У 1861-1862 гадах менавіта Беласток з'яўляўся фактычна другім пасля Варшавы цэнтрам па падрыхтоўцы паўстання, якое ўспыхнула ў 1863 годзе. Важнейшым дзеячам мясцовага кола быў Браніслаў Шварцэ, які, па заўвазе гісторыка Андрэя Кіштымава, „быў першы, хто паставіў падпольную работу на ўстойлівыя чыгуначныя рэйкі". А ў часы ссылкі стаў духоўным настаўнікам Юзафа Пілсудскага.

**Чыгуначнік, сын паўстанца**

Браніслаў нарадзіўся 8 кастрычніка 1834 года ў французскай Брэтані. Яго бацька, Юзаф Шварцэ, удзельнічаў у паўстанні 1830-1831 гадоў і вымушаны быў выправіцца ў эміграцыю. Бунтоўны характар бацькі перадаўся сыну, які ў 1848 годзе ўдзельнічае ў еўрапейскай „вясне народаў": 14-гадовы хлопец змагаецца на барыкадах Парыжа супраць караля Луі Філіпа ў імя Рэспублікі. І першы раз аказваецца за кратамі.

У 1852 годзе Браніслаў па заканчэнні Парыжскай вышэйшай палітэхнічнай школы атрымаў спецыяльнасць інжынера і пераехаў у Вену, дзе правёў два гады, будучы аўстрыйскую чыгунку. У 1859 годзе ён у Варшаве, а ўжо ў красавіку 1860 года ўладкаваўся ў французскую кампанію, якая будавала чыгунку Санкт-Пецярбург — Варшава. Браніслаў заняў пасаду памочніка будаўніка на станцыі Беласток.

Пераважную большасць інжынераў і будаўнікоў на чыгунцы складалі далёка не французы або бельгійцы. Перш за ўсё гэта былі колішнія эмігранты і іх дзеці з замежнымі пашпартамі ды былыя ссыльныя паўстанцы 1830-1831 гадоў, якія ў 1856 годзе атрымалі амністыю ад новага імператара Аляксандра ІІ. Яны не адмовіліся ад ідэалаў сваёй маладосці і распачалі дзейнасць па стварэнні канспіратыўных арганізацый. У далейшым яны ўсе прынялі ўдзел ва ўзброеным выступленні, як, напрыклад, інжынер з Гродна Кароль Фрычэ, паўстанцкі камандзір, загінуўшы геаічнай смерцю.

**Беластоцкае кола**

Адну са шматлікіх раз'яднаных арганізацый, самую масавую ў краі — Беластоцкае кола ўзначаліў якраз Браніслаў Шварцэ. Ён афіцыйна меў магчымасць выкарыстоўваць чыгунку для шматлікіх раз'ездаў, падчас якіх закладаў арганізацыю і, як адзначае польскі гісторык Стэфан Кеневіч, пераваратварыў Беластоцкую арганізацыю ў „звяно паміж Варшавай і Вільняй, асяродак рэвалюцыйнай прапаганды на беларускай мове".

27 (15) лютага 1861 года ў Варшаве адбыўся расстрэл дэманстрацыі гараджан, у выніку чаго пяць чалавек было забіта. Ужо на наступны дзень Браніслаў Шварцэ накіроўваецца ў сталіцу Каралеўства Польскага, дзе прымае ўдзел у з'ездзе моладзі. Ён прызывае рыхтавацца да ўзброенай барацьбы, але, аб'яўлены вар'ятам, вымушаны адправіцца назад у Беласток. Крыўда паслужыла штуршком да гартавання самастойнай арганізацыі. Ужо ў хуткім часе яна складалася з больш сотні ўдзельнікаў, палова з якіх — чыгуначнікі.

Браніслаў асабіста браў удзел ва ўсіх маніфестацыях, як касцельных, так і звычайных выступленнях, на якіх выказваў думку пра неабходнасць збірання грошай і зброі для будучага паўстання. Менавіта колам Шварцэ была арганізавана буйнейшая маніфестацыя ў Беластоку — працэсія да Тыкоціна з мэтаю братання з жыхарамі Каралеўства.

8 красавіка ў Варшаве пачалася чарговая маніфестацыя. Пасля атрымання тэлеграмы пра яе пачатак кіраўнік руху ў Беластоку Леапольд Плуцінскі вырашыў накіраваць туды цягнік з сябрамі кола. Толькі другая тэлеграма з паведамленнем пра задушэнне выступлення, у якім расійскімі войскамі было забіта больш ста чалавек, прымусіла ўсё адмяніць.

**„Гутарка старога дзеда"**

Восенню 1861 года пачынаюць актыўна ўтварацца колы „чырвоных", якія імкнуліся радыкальным, узброеным шляхам адрадзіць былую Рэч Паспалітую і разлічвалі на дапамогу ў гэтай справе шырокіх колаў сялянскага насельніцтва. Самае актыўнае з іх дзейнічала менавіта ў Беластоку. У Варшаве справа ішла складаней, таму што там былі моцныя пазіцыі „белых", якія разлічвалі на замежную дапамогу ў дасягненні сваіх мэт.





Магіла Б. Шварцэ на Лычакоўскіх могілках у Львове

24 верасня Браніслаў Шварцэ пісаў за мяжу генералу Людвіку Мераслаўскаму пра складанае становішча па падрыхтоўцы паўстання, на прыкладзе Беласточчыны. Ён апісваў, як мясцовы вясковы люд пакуль да барацьбы не падрыхтаваны, але з кожным днём сітуацыя паляпшаецца. Адна з важнейшых перадумоў — гэта „гвалтоўны перавод пры Мікалаю І літоўскіх уніятаў на праваслаўных, рэлігійны рычаг можна на Літоўскай Русі найэфектыўней парушыць, асабліва пры глыбокай нянавісці да маскалёў". Але на гэтым шляху ўзнікла нечаканая перашкода: „Каталіцкае духавенства абыззброенае па большай частцы адыходзіць ад нас, (...) да такой ступені, што самі ў маскоўскім духу сялян супраць нас падбухторваюць".

Нягледзячы на складанасці, Шварцэ меў перакананне, што частку сялян можна далучыць да паўстання ў выніку прапаганды. З гэтай мэтай з Украіны, дзе была моцная „чырвоная" арганізацыя на чале з украінскім паэтам Апола Кажанёўскім, калішанін Баляслаў Дэнель прывёз у Беласток шрыфт, якім Шварцэ разам з Ігнатам Грынявіцкім і Адольфам Белакозам у доме прыхадскога ксяндза друкаваў „па-беларуску лацінскімі літарамі" рэвалюцыйную народную „Гутарку старога дзеда". Яна павінна была пераканаць сялян, што толькі ад адроджанай Рэчы Паспалітай яны атрымаюць „зямлю і волю":

Kali staniem z Palakami,
Budziem roúnymi z panami,
Usim szczaście Boh nam daść,
I prapadzie Maskoúska úłaść!

Напярэдадні паўстання „Гутарка" была вельмі папулярная ў Беларусі і Літве. Яе чыталі і перапісвалі. Улады фіксавалі яе распаўсюджванне як на Беласточчыне, так і далёка на ўсход — на Полаччыне і Мазыршчыне. М. Акялайціс пераклаў яе на літоўскую мову пад назвай „Pasaka senelio" („Гутарка старога"). У Мемелі яна была надрукавана ў 1864 годзе вялізным тыражом у 10 тысяч экзэмпляраў, але пруская ўлады канфіскавалі выданне. За распаўсюджванне „Гутаркі" выпраўлялі на катаргу, як, напрыклад, селяніна Троцкага павета Хама Буткевіча.

**Канфлікт Шварцэ з Каліноўскім**

Бліжэйшым паплечнікам Браніслава быў яго сябар па парыжскай школе Геранім Кеневіч — інжынер пры Ніжнегародскай чыгунцы. Дзякуючы яму Беластоцкае кола наладзіла адносіны з маскоўскай суполкай „Зямля і воля". Пазней Кеневіч быў расстраляны за так званы „Казанскі бунт". Пры яго пасрэдніцтве вясною 1862 года Шварцэ выязджаў, як ён сам адзначае, „для паразумення" з Віленскім камітэтам, які настойліва праводзіў лінію на самастойнае ад Варшавы паўстанне ў Беларусі і Літве. У тым актыўную ролю пачаў адыгрываць адзін са стваральнікаў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Кастусь Каліноўскі.

У сярэдзіне 1862 года рознасць у поглядах у накірунках будучага паўстання перарасла ў адкрыты канфлікт паміж лідарамі Беластоцкай і Гродзенскай арганізацый — Браніславам Шварцэ і Кастусём Каліноўскім, апошні з якіх меў шырокую падтрымку з боку „чырвоных" Вільні. Нават Валерый Урублеўскі, якога Шварцэ асабіста прывёў да прысягі ў Саколцы, па заўвазе Браніслава „перастаў слухаць Варшаву".

Зачэпкаю да канфлікту паслужыла імкненне Шварцэ да рэарганізацыі чыгункі. Аргументам для таго з'яўлялася важнае значэнне чыгункі для лёсу ўсяго паўстання.

Гэта настроіла супраць Шварцэ многіх удзельнікаў Беластоцкага кола. У выніку ў маі-чэрвені 1862 года ён займаўся тым, што „ратую сваю чыгуначную арганізацыю ад Віленскага камітэта", паколькі Каліноўскі вырашыў скарыстацца зручным момантам і далучыць кадры Беластоцкага кола да сваёй структуры.

У гэты час Браніслаў Шварцэ жыў і працаваў на чыгуначнай станцыі Лапы, майстэрні якой выкарыстоўваліся для вырабу і захоўвання зброі для будучага паўстання.

**Адзін з кіраўнікоў Нацыянальнага камітэта**

Частыя раз'езды Шварцэ ў Гродна, Вільню і Варшаву выклікалі падазрэнне ў жандараў, якія напачатку чэрвеня вырашылі яго арыштаваць. Шварцэ ўжо чакалі на працы і ў месцы яго кватаравання, калі на вуліцы яго запыніла капітанская жонка і папярэдзіла пра пагрозу. Браніслаў сеў на таварны цягнік і дабраўся да Варшавы, дзе хаваўся сем месяцаў. За яго галаву было абяцана 5000 рублёў. Аднойчы выпадкова на вуліцы ён сустрэўся з кіраўніком Беластоцкай дыстанцыі чыгункі Алёхіным, але той так і не паведаміў уладам пра месцазнаходжанне Браніслава.

Шварцэ па прыездзе ў сталіцу Каралеўства адразу апынуўся ў віхуры падзей. Ён быў уведзены ў Цэнтральны камітэт, але яго недасведчанасць у варшаўскіх справах стала прычынаю шэрагу асабістых праблем і памылак. Да таго ж выхаваны ў Францыі, ён не мог усвядоміць сапраўднага стану рэчаў, які панаваў у былой Рэчы Паспалітай. Ён сам сябе называў дзівакам і параўноўваў сваё становішча ў Варшаве па характары з тым, у якім апынуўся ў далейшым дыктатар паўстання Людвік Мераслаўскі.

Шварцэ выпраўляецца ў Кракаў, каб падрыхтаваць мясцовую паўстанцкую арганізацыю Галіцыі на выпадак паўстання. І амаль адразу пасля вяртання ў Варшаву, 23 (11) снежня 1862 года быў арыштаваны расійскімі ўладамі, аказаўшы ўзброенае супраціўленне.

**Вязень Шлісельбургскай крэпасці**

Паўгода доўжылася следства, у час якога ён утрымоўваўся ў Х павільёне Варшаўскай крэпасці, дзе 13 мая 1863 года быў асуджаны на смерць.

Пасля арышту Шварцэ жыхары горада Дзінан у Брэтані, з якога ён быў родам, звярнуліся з петыцыяй да французскай імператрыцы Яўгеніі, каб яна заступілася за Браніслава перад расійскім імператарам Аляксандрам ІІ. Гэтае ўмяшанне ў выніку і выратавала жыццё Шварцэ. Смяротны прысуд быў заменены пажыццёвым турэмным зняволеннем.

Нязломны вязень Шварцэ ніколі нікога не выдаў. Калі расійскія ўлады гатовыя былі яго як замежнага падданага выпусціць пад слова гонару, што больш не будзе выступаць супраць Расійскай імперыі, ён адказаў проста: „Слова даць не магу". У выніку апынуўся ў Шлісельбургскай крэпасці, у камеры, дзе да яго сядзеў расійскі анархіст Міхаіл Бакунін.

Тут Браніслаў правёў сем гадоў у поўнай ізаляцыі. Каб не з'ехаць з глузду, ён, у якасці разумовага практыкавання, пачаў складаць вершы, якія першапачаткова трымаў ва ўласнай памяці. І толькі ў рэдкіх выпадках, калі меў доступ да абпаленых запалак і кавалка паперы, запісваў іх.

Сябар Шварцэ, Стэфан Юшчынскі, успамінаў: „У крэпасці ён меў толькі кнігі геаграфічнага і філалагічнага зместу, у выніку стаў вялікім географам і паліглотам. Не было, здаецца на свеце такой малой рэчкі або мясціны, пра якую ён не ведаў, і ведаў мноства моў. Але 7 гадоў адзіноты і адносін толькі з кніжкамі пакінула сляды ў яго псіхіцы. Займаўся астралогіяй і вынікі сваіх астралагічных даследаванняў перанёс на, па-вычварэнску пабудаваныя, карты, на якіх былі пабудаваны неіснуючыя моры, горы, рэкі і так далей, у спалучэнні з зоркамі. Карт тых ён нікому не паказваў — „Як скончу, то ўвесь свет пабачыць і будзе здзіўлены" — адказваў на маю просьбу патлумачыць значэнне карт, пры якіх выпадкова яго застаў за працай. Акрамя гэтага ён быў нармальным чалавекам вялікай эрудыцыі ва ўсіх галінах ведаў".

Сем гадоў у Шлісельбургу, затым па стане здароўя ён быў накіраваны на пяць гадоў у форт Верны (сёння Алма-Ата, Казахстан), дзе ў яго мелася магчымасць падтрымліваць адносіны з іншымі вязнямі. Потым амаль 7 гадоў Шварцэ пражыў у Томску, пакуль напрыканцы 1881 года не быў арыштаваны, у сувязі з яго дзейнасцю ў таемнай арганізацыі „Чырвонага крыжа Народнай волі". Потым быў год следства, затым год вязніцы ў Томску, далей ссылка ў вёску Тунка, па-за Іркуцкам, дзе Шварцэ правёў яшчэ 7 гадоў. Тут ён ажаніўся з сібірачкай. Жонка рана памерла, пакінуўшы яму ў якасці дарунка трое дзяцей.

**Настаўнік Юзафа Пілсудскага**

Менавіта ў вёску Тунка ў 1889 годзе прыбыў на ссылку 21-гадовы Юзаф Пілсудскі, які ў асобе Браніслава Шварцэ знайшоў адданага настаўніка, пазней успамінаючы: „Стары мой прыяцель, Шварцэ, распавядаў мне пра хвіліны свайго арышту перад паўстаннем". Сам жа Шварцэ ў асобе Пілсудскага ўгадваў сябе маладога, нязломнага духам, паўстанца, які патрапіў да няволі. Гэта быў знак таго, што справа яго жыцця працягваецца.

Увесь час знаходжання Шварцэ за кратамі і ў ссылцы яго сям'я ў Францыі не губляла надзеі вызваліць Браніслава, прыкладвала ўсе для гэтага намаганні, робячы націск на тое, што ён з'яўляецца французскім падданым. Справа яго дайшла да самога імператара, у выніку той у 1889 годзе даў дазвол Браніславу і яго дзецям выехаць за межы Імперыі. Але толькі ў 1891 годзе гэтаму было наканавана здзейсніцца.

Пакідаючы Тунку, Шварцэ перадаў Пілсудскаму сваё добра аплочваемае працоўнае месца, уратаваўшы такім чынам маладога чалавека ад матэрыяльнай галечы.

Шварцэ пераязджае спачатку ў Кракаў, працуе журналістам, і ўрэшце перабіраецца ў Львоў, дзе атрымаў невялікую пасаду чыноўніка. Ён шмат піша, перакладае расійскіх паэтаў на польскую мову. Пасля вызвалення з ссылкі яго наведвае Юзаф Пілсудскі, які падштурхоўвае свайго настаўніка да напісання ўспамінаў пра падрыхтоўку студзеньскага паўстання. У сваю чаргу Браніслаў нараджае ў Юзафе імкненне да даследавання студзеньскага паўстання. У 1893 годзе Шварцэ выдае кнігу „Сем гадоў у Шлісельбургу". У 1906 годзе яна была перакладзена на рускую мову, але яе наклад быў цалкам знішчаны.

Браніслаў Шварцэ памёр 18 лютага 1904 года. Пілсудскі прыязджаў у Львоў, каб дапамагчы ў арганізацыі яго пахавання. На магілу Шварцэ на Лычакоўскіх могілках будучы першы кіраўнік адроджанай польскай дзяржавы ўсклаў вянок са словамі „Прыяцелю і рэвалюцыянеру".

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

ISSN 0546-1960